ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ
МАТЭРЫЯЛЫ ПА АРХЕАЛОГІІ БЕЛАРУСІ
MATERIALS ON THE ARCHAEOLOGY OF BELARUS

ВЫПУСК № 2

**М. М. Крывальцэвіч**

# Азярное I паселішча эпохі бронзы на поўначы Палесся

УДК [947.6 + 903(476)] «637»
ББК 63.4 (4Вен) + 633 (4 Беи 12 К 85

Серыя заснавана ў 1959 годзе
Навуковы рэдактар: докт. гіст. навук А.Г. Калечыц
Навуковыя рэцэнзенты: канд. гістар. навук Э.М. Зайкоўскі, канд. гіст. навук М.М. Чарняўскі
Крывальцэвіч М.М.

Азярное 1 - паселішча эпохі бронзы на поўначы Палесся. Мн Ін-т гісторыі НАН Беларусі, 1999. 108 с.: іл. (серыя «Матэрыялы па археалогіі Беларусі”. Вып. 2).

Гэтай кнігай Інстытут гісторыі НАН Беларусі ўзнаўляе серыю выданняў, пачатую ў 1959 г. (Материалы по археологии Белоруссии, т. 1. Минск 1959). Кнігамі серыі плануецца ўводзіць у навуковы зварот матэрыял з археалагічных помнікаў Беларусі.

У прадстаўленай манаграфіі на падставе аналіза археалагічных комплексаў Азярнога 1 ранняга, сярэдняга і позняга перыядаў эпохі бронзы, узнаўляюцца этапы засялення месца паселішча. вызначаецца дынаміка і спосабы гаспадарчага асваення мікрарэгіёна, храналогія комплексаў, працэс фармавання культурных адметнасцяў. Выкарыс тоў ваюцца вынікі паліналагічнага, мінералага-петраграфічнага выву чэння і радыявугляроднага датавання матэрыялаў.

Кніга прызначаная для ўсіх тых, хто цікавіцца археалогіяй і старажытнай гісторыяй Беларусі.
УДК [947.6 + 903(476)] «637»
ББК 63.4 (4Беи) + 633 (4 Беи)2

Выданне абмеркаванае і рэкамедаванае да друку аддзелам архе алогіі каменнага і бронзавага вякоў і рэдакцыйна-выдавецкай групай аддзелаў археалогіі, а таксама Вучонай Радай Інстытута гісторыі НАН Беларусь

На вокладцы змешчаны арнаментальны матыў з дна гаршка сярэднедняпроўскай культуры.

# ЗМЕСТ

УСТУП
I. АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ: МЕСЦАЗНАХОДЖАННЕ, СТРАТЫГРАФІЯ, ПЛАНІГРА ФІЯ
II. МАТЭРЫЯЛЫ
II. 1. КЕРАМІКА
II. 1.1. Першы тыл керамікі
II. 1.2. Другі тып керамікі
II. 1.3. Іншая кераміка эпохі бронзы
II. 2. КРАМЯНЁВЫЯ ВЫРАБЫ
II. 3. КАМЕННЫЯ ВЫРАБЫ
III. ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ
III. 1. АРХЕАЛАЕІЧНАЯ ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ
III. 1.1. Атаясамленне з сярэднедняпроўскай культурой
III. 1.2. Культурных кампанентпы
III. 1.2.1. Помнікі са шнуровой керамікай но шхадзе Палеесся
III. 1.2.2. Помнікі са шнуравой керамікай на Беларускім Панямонні
III. 1.2.3. Культура шароподобных амфор
III.1.2.4. Усходнепалескі варыянт днепро-данецкай культуры
III 1.2.5. Неманякая культура
III. 1.2.6. Высновы
III. 1.3. Атаясамленне з усходнім « Тшцінцом»
III. І. 4. Мікрарэгіянальны агляд помнікаў
III.2. ХРАНАЛОГІЯ
III. 3. ГІСТАРЫЧНАЯ ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ
III. 3. 1. Этапы і характар засялення
III. 3.2. Гаспадарка
III. 3.3. Да праблемы сацыяльнай структуры
ЗАКЛЮЧЭННЕ
ЛІТАРАТУРА
ДАДАТКІ
Дадатак 1. Минералого-петрографическое описание фрагментов керамики поселения Озерное 1 (Н.Н.Дубицкая)
Дадатак 2. Датирование керамики Озерного 1 по $C^{14}$ (Ковалюх Н.Н.)
Дадатак 3. Данные споро-пыльцевого анализа в изучении истории растительности и 47 выявлении воздействия человека на природное окружение на поселении Озерное 1 (Симакова Г.)

# УСТУП

Бронзавы век па-ранейшаму застаецца адным з самых мала даследаваных перыядаў айчыннай дагісторыі. Эпізадычна ў навуковым друку з'яўляюцца публікацыі з пераважна агляднымі па зместу апісаннямі матэрыялу эпохі бронзы, а ў якасці падсумавання, у лепшым выпадку, робяцца захады па атаясамленню тых ці іншых комплексаў з раней адкрытымі археалагічнымі групамі, культурамі, супольнасцямі. Але, безумоўна, з накапленнем эмпірычных дадзеных усё большае значэнне павінна набываць інтэрпрэтацыйнае іх асэнсаванне з выхадам на гістарычныя, сацыяльна-структурныя, этнакультурныя ды іншыя рэканструкцыі.

У прапанаванай чытачу манаграфіі публікуюцца вынікі вывучэння паселішча эпохі бронзы Азярное I, на якім мною ў 1985-1988 гадах праводзіліся археалагічныя раскопкі. Вялікая ўвага, прынамсі, звяртаецца на інтэрпрэтацыю атрыманых матэрыялаў.

Азярное 1 разглядаецца як месца, якое перыядычна засялялася ў часы ранняга, сярэдняга і позняга перыядаў бронзавага веку. Пэўныя формы пасяленцтва маглі ўзнікнуць у залежнасці ад спосабаў гаспадарчага асваення мікрарэгіёну, а таксама ў адпаведнасці з сацыяльнай структурай калектываў, іх культурнымі асаблівасцямі, этнічнай сітуацыяй і г.д.

Азярное I разглядаецца, з аднаго боку, на фоне мікрарэгіёну возера Вячэра, а з другога — як адна са структурных адзінак (помнік) у сістэме адпаведных груп і культур эпохі бронзы на Палессі. У сувязі з гэтым вялікае значэнне ў даследаванні займае праблема вывучэння культурных кампанентаў, якія мелі тое ці іншае дачыненне да працэсу фармавання культурнага аблічча помніка і, у нейкай ступені, адлюстроўвалі характар узаемадзеяння розных культурных плыняў. Адначасова робяцца захады па разгляду паселішча на мікрарэгіянальным узроўні. У дадзеным выпадку вылучаюцца тыя асаблівасці, якія маглі ўзнікнуць на Азярным 1 у залежнасці ад спецыфікі тутэйшай мясцовасці — невялікага возера на поўначы Палесся ў атачэнні нізін і з выспамі на іх, у аддаленні ад магістральнага рэчышча, а таксама ва ўмовах складанага культурнага ўзаемадзеяння часоў ранняй бронзы.

Прапануюцца рэканструкцыі некаторых форм арганізацыі вытворчай гаспадаркі. Вызначаецца, у залежнасці ад гэтага, стратэгія і вынікі асваення мікрарэгіёну не толькі ў эканамічнай, але і ў культурнай, сацыяльнай праявах.

У манаграфіі прапануецца універсальная тыпалогія керамікі. Рэп рэ зентаваная схема, як па зместу, так і структурна можа паспяхова выкарыстоўвацца ў якасці асновы для апрацоўкі адпаведных комплексаў эпохі бронзы паўднёвай Беларусі і суседніх рэгіёнаў.

Некаторыя высновы грунтуюцца на матэрыяле паліналагічных даследванняў, якія праводзіліся ў Азярным 1 Галінай Сімаковай — малодшым навуковым супрацоўнікам лабараторыі сучасных геалагіч ных працэсаў Інстытута геалагічных навук Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Археалагічная тыпалогія і храналогія керамікі пасе лішча ў пэўнай ступені дапаўняецца вынікамі мінералага-петрагра фічнага яе разгляду Наталляй Дубіцкай — навуковым супрацоўнікам аддзела археалогіі Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, а таксама датаваннем па $C^{14}$ у лабараторыі пад кіраў ніцтвам Мікалая Кавалюха — загадчыка радыёкарбоннай лабараторыі Інстытута геахіміі і фізікі мінералаў Украінскай нацыянальнай акадэміі навук.

Шаноўным Г.Сімаковай, Н.Дубіцкай, М. Кавалюху аўтар выказвае ўдзячнасць за супрацоўніцтва і згоду на рэпрэзентацыю ў якасці Дадаткаў некаторых вынікаў іх спецыяльных даследаванняў, якія тычацца Азярнога І. Аўтар выказвае таксама ўдзячнасць сваім калегам — супрацоўнікам аддзела археалогіі каменнага і бронзавага вякоў Інстытута гісторыі НАН Беларусі, якія выразілі цікавасць да манаграфіі і прынялі актыўны ўдзел у яе абмеркаванні.

## І АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ: МЕСЦАЗНАХОДЖАННЕ, СТРАТЫГРАФІЯ, ПЛАНІГРАФІЯ

Калі ехаць па шашы ў паўднёва-ўсходнім накірунку ад Любані, нельга не звярнуць увагу на параўнальна невялікае возера пад назваю Вячэра. Плошча яго воднай паверхні складае каля 3 кв.м. На нізін ным паўночна-ўсходнім беразе Вячэры ў вочы абавязкова кінецца вы сокі пагорак, на якім расце мо з дзесятак каржакаватых, адкрытых усім вятрам хваін. Белая залысіна пясчанай выдзьмы робіць узвышша добра прыкметным на шэра-блакітным фоне воднай гладзі ды акаляючых лясоў. Згаданы пагорак і ёсць месца унікальнага комплек са паселішчаў каменнага, бронзавага ды жалезнага вякоў.

Найчасцей у Азярным І сустракаліся абломкі посуду і крамянёвыя вырабы каменнага веку (больш за 50 % калекцыі). Колькасць знаходак эпохі бронзы складае больш за 30 %. Менавіта разгляду апошніх і іх інтэрпрэтацыі прысвечана праца.

* * *

Возера Вячэра размешчана на плоскай забалочанай мясцовасці. Берагі яго нізкія і тарфяністыя, толькі па ўсходняму краю пясчаныя. Разнастайнасць нізіннаму пейзажу надаюць некалькі пясчаных пагоркаў, якія зусім блізка падыходзяць да вады. На іх растуць пераважна хваёвыя дрэвы. Нізіны меліяраваныя, месцамі з купкамі лісцёвых дрэў ды хмызняку. Большая частка прыбярэжных тэрыторый некалі да асушэння ўяўляла сабою абшырныя балоты, якія зліваліся з грандыёзнымі па плошчы Загальскімі нізіннымі масівамі.

Вячэра размешчаная ў басейне р.Арэсы, якая працякае за 5-6 км на паўднёвы захад ад возера. Раней у час паводак воды Вячэры зліваліся з вадою Арэсы. На карце XIX стагоддзя ў якасці аднаго з прытокаў Вячэры адзначаецца р.Рухаўка (Специальная карта, 1826-1840). Яна цякла з поўначы на поўдзень, а ніжэй Ямінска рабіла луку, скіроўваючы сваю плынь на захад, і ўпадала ў паўднёва-ўсходнюю акваторыю возера.

На пагорках, якія ў некаторых месцах пракідваюцца на азёрных поплавах, адзначаюцца сляды старажытных паселішчаў (мал. 2). Сярод іх наибольшай увагі заслугоўвае Азярное 1. Яно было адкрыта мною ў 1985 г. Азярное I і іншыя месцазнаходжанні эпохі бронзы, канцэнтруючыся ля Вячэры. с клад ал і пэўны мікрарэгіён. Раскопкі і найбольш выніковыя павярховыя зборы праводзіліся на месцы Азярнога 1 у 1985-1988 гадах (Кривальцевич, 1987, с. 455-456; 1988, с. 369-370). Помнік размешчаны прыблізна за 0,7 км у паўночна-ўсходнім накірунку ад вёскі Азярное (Любанскі раён Мінскай воб ла сці), на ўзвышшы, якое мясцовымі людзьмі завецца «Дубное» (мал. 3).

Пагорак плошчаю каля 150 х 250 м і вышынёю да 5 м месціцца сярод поплаўных тарфавішчаў Вячэры. Ён уяўляе сабою ад мысловую выспу, заходняя ўскраіна якой абмываецца вадою возера. Самы ўзвышаны і адкрыты вятрам з возера паўночны край пагорка месцамі моцна пашкоджаны разодзьмамі. На найбольшай пясчанай «праплешыне» Азярнога 1 мною праводзіліся паквадратныя павярхо выя зборы. Агульная плошча іх складала 584 кв.м.

На разодзьме акрамя параўнальна невялікай колькасці абломкаў посуду эпохі бронзы ды мілаградскай культуры канцэнтравалася шмат рашчапанага крэменя. Вывучэнне апошняга дазволіла В.Я.Куд рашову адкрыць тут крамянёвы комплекс кудлаеўскай мезалітычнай культуры VIII-V тыс. да н.э. Адерное I стала «адным з найбольш выразных помнікаў гэтай культуры на тэрыторыі Беларусі ў левабя

рэжжы Прыпяці» (Кудряшов, Кривальцевич, 1994, с. 87-102).

Рэшткі паселішчаў каменнага, бронзавага ды жалезнага вякоў адзначаюцца мною па заходняй аканечнасці ўзвышша, прыблізна на плошчы 145 х 95 м. Такая тэрыторыя ўстаноўленая на падставе матэрыялаў асноўнага раскопа, павярховых збораў ды шурфоўкі, сыходзячы найперш з распаўсюджвання керамікі. Разам з тым, найбольшыя згрувашчванні рэштак часоў неаліту, эпохі бронзы назіраюцца на паўднёвай палове, некалі занятай пад пасёлак, плошчы узвышша. Да таго ж, гэтая дзялянка Дубнога мела параўнальна добрую захаванасць.

Адзначаная тэрыторыя — задзірнаваная, параўнальна роўная, крыху паніжаная ў накірунку да вады, пляцоўка, — і сталася месцам асноўнага раскопа, плошча якога склала 776 кв.м (мал. 4).

Магутнасць культурнага пласта на паселішчы ў межах раскопа павялічвалася ў паўднёвым, паўднёва-заходнім накірунку ад 0,3 м да 0,5-0,6 м. Стратыграфічна вызначаўся глебавы пласт; які пераходзіўу рудавата-шэрую падглебавую супесь. Апошняя падсцілалася мацерыковым пяском. На некаторых дзялянках раскопу на глыбіні 0,2-0,3 м ад сучаснай дзённай паверхні, прасочваўся прапластак белага сыпучага пяску магутнасцю каля 0,10-0,15 м. У гэтых пясчаных «лінзах» найчасцей знаходзілі кераміку позняга неаліту ды ранняга перыяду бронзавага веку. Аднак на большай частцы даследаванай тэрыторыі помніка розначасовыя матэрыялы стратыграфічна не падзяляліся (мал. 4).

Паселішча раскопвалася квадратам! 2 х 2 м і ўмоўнымі пластамі таўшчынёю да 20 см. Адпаведна пласты ахоплівалі глыбіні: 0-0,2 м; 0,2-0,4 м; 0,4-0,6 м.

Найбольшая колькасць матэрыялаў эпохі бронзы ў межах раскопу прыпадае на пласт 0,2-0,4 м. Значна менш яго знаходзілася ў пластах 0-0,2 і 0,4-0,6 м.

На паселішчы адкрытыя сляды наземнай слупавай пабудовы (жытло?). Пачынаючы з узроўню 0,27-0,33 м ад сучаснай дзённай паверхні, ў падглебавай супесі адзначаліся вуглістыя рэшткі спаленых слупоў. Ніжэй, на глыбіні 0,37-0,45 м, расчышчаліся сляды паглыбленняў (ямы 1-3), у якіх (ямы 1, 2) знойдзеныя абломкі посуду ранняга перыяду эпохі бронзы, крамянёвы трохкутны наканечнік стралы. Сляды паўночнай часткі пабудовы губляліся, бо культурны пласт на гэтым месцы помніка быў маламагутны, часткова пашкоджаны (мал. 4; 5).

Ва ўсходнім кутку раскопа, дзе заўважаліся слупавыя ямы пабудовы, назіралася канцэнтрацыя керамікі І тыпу (гл. II.1.1.), у тым ліку

развалаў пасудзін. Кераміка I тыпа ў вялікай колькасці згрувашчвалася і на заходніх дзялянках раскопу, дзе таксама знойдзена не калькі асобных паглыбленняў. Дзённая паверхня тут рабіла абрывісты пералад і далей паніжалася да самай вады возера. Менавіта ўздоўж такім чынам утворанага ўступа і змяшчалася даволі шмат керамікі I тыпу, якая аднесеная мною да ранняга перыяду эпох і бронзы. Атрымліваецца, што, мажліва, раскопам была ахопленая найбольш абжытая і актыўна асвоеная людзьмі ранняга перыяду бронзы дзялянка узвышша (мал. 5-8).

У стратыграфіі паселішча абсалютная большасць адзначанай ке ра мікі I тыпу займала пласт 0,2-0,4 м і, такім чынам, «прывязвалася» да слядоў апісанай вышэй пабудовы (мал. 7).

Кераміка II тыпа (сярэдні перыяд эпохі бронзы — гл. II.1.2.) амаль раўнамерна распаўсюджвалася па ўсёй плошчы раскопа. Асобныя яе развалы знойдзеныя бліжэй да заходніх яго дзялянак, што можна растлумачыць жаданнем выкарыстаць людзьмі пляцоўку па краю ўступа перад рэзкім паніжэннем старажытнай дзённай паверхні да возера (мал. 9-11).

Варта таксама дапусціць, што выбар пад пабудову пляцоўкі ўздоўж паўднёвага края ўзвышша быў абумоўлены некаторымі прыроднымі фактарамі. Халодны паўночны вецер, які перыядычна дзьме з возера, сустракае перашкоду ў выглядзе пагоркау па паўночнаму высокаму краю ўзвышша. Нездарма пад націскам вятроў менавіта высокія пагоркі сталіся раздзьмутымі.

## II. МАТЭРЫЯЛЫ

### II. 1. КЕРАМІКА

Кераміка — адзін з самых паказальных элементаў культуры паселішча Азярное I. Улічваючы параўнальна высокі дынамізм зменаў керамікі, яе варта залічыць у шэраг найбольш важных рэцэптараў працэсу развіцця культуры. Гэтая акалічнасць вымагае надзвычай уважлівага стаўлення да керамічнага матэрыялу з Азярнога I. Тым больш, што эпоха бронзы рэпрэзентаваная на паселішчы параўнальна вялікай колькасцю менавіта гэтай катэгорыі знаходак.

Калі лічыць умоўна развалы гаршкоў ці колькі фрагментаў адной пасудзіны за адну статыстычную адзінку — «абломак» — то на Азярным I вылучана больш за 1150 абломкаў посуду эпохі бронзы. Звернем найперш увагу на два асноўныя тыпы керамікі — I і II.

Вылучэнне іх здзейснена на падставе аналізу вынікаў карэляцыі трох асноўных візуальных паказчыкаў керамікі: тэхналогіі (зместам дадаткаў да глінянага цеста, спосабам апрацоўкі паверхні ды інш.), арнаментальнага азлаблення і марфалогіі. Па аднаму абломку кера мікі, як першага так і другога тыпаў, прайшло мінералага-пегра графічнае вывучэнне, якое было здзейснена ў Інстытуце гісторыі Наталляй Дубіцкай. Мінералага-петраграфічнае апісанне фрагментаў посуду рэпрэзентаванае ў Дадатку 1 (гл. Дадатак 1), а таксама выкарыстанае для разгляду керамікі адпаведных груп Азярнога І. «Образец № 45» — абломак керамікі І тыпу» «образец № 46» — абломак керамікі ІІ тыпу. Карэляцыя здзяйснялася паводле базы дадзеных, створанай у выглядзе спецыяльнай табліцы, кожная з графаў якой адпавядала пэўнай прыкмеце. Усе абломкі посуду былі апрацаваныя з улікам прысутнасці ці адсутнасці той ці іншай прыкметы.

### ІІ.1.1. Першы тып керамікі
*(мал. 12-23).*

Першы тып керамікі (І) умоўна можна назваць «шамоцістым». Да яго аднесена больш за 1040 абломкаў посуду. На амаль 92 % іх заўважаецца выкарыстанне штучных шамоцістых атлушчальнікаў. Акрамя ўласна шамоту штучнымі дамешкамі маглі быць адначасова шамот і дробная жарства, а таксама шамот і пясок. І толькі менш чым на 8% абломкаў керамікі адзначаецца прысутнасць дамешкаў у выглядзе толькі дробнай жарствы.

Першы тып керамікі вылучаецца яшчэ і тым, што на абсалютнай большасці абломкаў можна заўважыць больш ці менш выразнае штры хаванне паверхні. Штрыхі звычайна скіраваныя гары зан тальна. Яны ўтвараліся праціраннем сырой паверхні пучком травы (?). Найбольш рэльефна выглядае штрыхоўка ўнутранай паверхні пасудзін.

Што тычыцца шамоцістых дадаткаў, то ў некаторых выпадках назіраецца, што ў іх якасці маглі служыць частачкі старога раздроб ленага посуду. Гэта пацвярджаецца і мінералага-петраграфічным даследаваннем такой керамікі (Дадатак 1).

Заўважана, што гаршкі буйных памераў ляпіліся з гліняных стужак шырынёю да 5-6 см, па краёх якіх захаваліся сляды пальцавых зашчыпаў. Стужкі змацоўваліся па метаду касога налепу.

Колькасць штучных дадаткаў, якія ўводзіліся ў гліну пры лепцы посуду, была зусім малою. У эксперыментальным фрагменце яны

складаюць 3-5 % (Дадатак 1). Вера годна ў залежнасці ад гэтага кераміка I тыпу мяккая навобмацак, даволі крохкая і ломкая. Маг чыма гэта залежала таксама і ад параўнальна невялікай тэмпературы абпалу на вогнішчы.

У аснову класіфікацыі аздаблення і марфалогіі керамікі Азярнога 1 пакладзена двухузроўневая схема, дзе вылучаюцца падтыпы і групы. Падтыпы пазначаюцца літарамі алфавіта (А, Б, В ...), а групы — арабскімі лічбамі (1, 2, 3 ...). У аздабленні керамікі разглядаюцца элементы і матывы арнаментацыі. Падзел элементаў арнаментацыі на падтыпы здзяйсняецца на падставе спосабаў нанясення той ці іншай аздобы. У сваю чаргу падтыпы элементаў арнаментацыі дзеляцца на групы ў залежнасці ад разнавіднасці іх форм. Прапануецца скразная, г.зн. для ўсёй керамікі I і II тыпаў, класіфікацыя элементаў арнаментацыі эпохі бронзы (мал. 24).

А. Адбітак, які ўтвараўся ў выніку прыкладання да керамічнай паверхні спецыяльнага штампа ці зрэзанага тарца трэскі. След меў выцягнутую прадаўгаватую форму. У залежнасці ад формы тарца трэскі адбітак мог набываць шэсць розных выглядаў, якія ў маёй схеме рэпрэзентаваныя як групы 1-6.

Звычайна ў беларускай і, калі-нікалі, ва ўкраінскай літаратуры такія аздабленні называюць «лінейнымі штампамі», «насечкамі». Апошні тэрмін найбольш адпавядае трупам 1, 5, 6 маёй класіфікацыі. Разлічваючы на універ сальнасць сваёй схемы, заўважу, што колькасць груп лінейных штампаў і насечак на іншых помніках можа павялічвацца.

Б. Сляды, якія заставаліся пасля прыкладання да паверхні грабенчыка ці нейкага зубчатага штампа. Пры гэтым грабенчык пакідаў на гліне падпрамакутныя ці прамакутныя адбіткі толькі зубоў (адсюль «зубчаты»),

Такія арнаменты часта называюць зубчатым і і адрозніваюць ад грабенчатых. Па форме адбіткі асобных зубчыкаў могуць мець выгляд шэрагу квадрацікаў (трупа 1) ці выцягнутых прамакутнікаў (трупа 2) (мал. 25: 17).

В. Адбіткі, якія рабіліся канцом круглай палачкі. Наколы маглі быць закончанымі — круглым і, авальнымі (група I) ці незакончанымі (паўкруглымі, паўавальнымі) (група 2) (мал. 25: 18.25,28).

Г. Сляды, якія заставаліся пасля прыкладання да паверхні перавітай вяровачкі. Звычайна яго называюць шнуравым. Мае экспер$м$енты з нанясеннем шмуравых арнаментаў дазваляюць сцвярджаць, што адбіткі на посудзе Азярнога I маглі ўтварацца ў выніку прыкладання да гліны туга перавітых ў некалькі столак нітак.

Табліца 1

Колькаснае размеркаванне падтыпаў і груп

| Падтып | А | | | | | | Б | | В | | Г | д | Е | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Група | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 1 | 2 | 1 | 2 | 1 | 1 | 1 | 2 | 3 | 4 |
| Колькасць абломкаў | 201 | 56 | 200 | 27 | 25 | 267 | 73 | 16 | 7 | 12 | 92 | 3 | 5 | 95 | 13 | 1 |
| Усяго | 776 | | | | | | 89 | | 19 | | 92 | 3 | 114 | | | |
| % | 193 | 5,4 | 19.2 | 2.6 | 2.4 | 25,6 | 7.0 | 1,6 | 0.7 | 1,1 | 8.8 | 0.3 | 0,5 | 9,0 | 1,2 | 0,1 |
| % | 74,3 | | | | | | 8,5 | | 1,8 | | 8,8 | 0,3 | 10,9 | | | |

Табліца 2

Колькаснае размеркаванне падтыпау і груп матываў арнаментацыі ў кераміцы I тыпу

| Падтып | А | | | | | | | | | | Б | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Група | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| Колькасць абломкаў | 225 | 30 | 382 | 15 | 107 | 4 | 1 | 2 | 9 | 1 | 33 | 22 | 4 | 2 | 1 | 1 | 4 | 1 | 1 |
| % | 21,6 | 2,9 | 36.6 | 1,4 | 10,2 | 0,4 | 0,1 | 0.2 | 0,9 | 0.1 | 5,0 | 2,1 | 0,4 | 0,2 | 0,1 | 0,1 | 0,4 | 0,1 | 0.1 |
| Падтып | В | | | | Г | | | | | | | д | | Е | | | | | |
| Група | 1 | 2 | 3 | 4 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 1 | 2 | 1 | 2 | | 4 | 5 | 6 | 7 |
| Колькасць абломкаў | 12 | 1 | 2 | 1 | 7 | 70 | 1 | 2 | 7 | 1 | 4 | 2 | 1 | 3 | 18 | 27 | 45 | 15 | 4 | 2 |
| % | и | 0.1 | 0.2 | 0.1 | 0.7 | 6.7 | 0.1 | 0,2 | 0.7 | 0.1 | 0.4 | 0.2 | OJ | 0,3 | 1,7 | 2,5 | 4.3 | 1,4 | 04 | 0.2 |

Д. Пракрэсленыя лініі, якія праводзіліся канцом палачкі (мал. 25: 21).

Е. Адбіткі, якія заставаліся пасля прыкладан ня да паверхні палачкі, якую папярэдне шчыльна перавівалі ніткаю (мал. 25: 19,20,24). Нанясенне менавіта такім прыстасаваннем адпаведнага аздаблення пацвярджаецца ўласнымі эксперыментамі.

Такі арнамент часта называюць «вусеневым» («гусеничный» у рускім варыянце).

Вусеневы арнамент у Азярным I мае чатыры разнавіднасці. Ён мог наносіцца кароценькім (група 1), прадаўгаватым, але абмежаваным з двух канцоў, штампам (група 2). Часам адбіткі складваліся ў адну лінію (група 3) альбо рабіліся канцом перавітай палачкі (група 4), пагадваючы ў апошнім выпадку неалітычныя лапчатыя арнаменты, да таго ж маючы блізкую да трохкутніка ў плане форму.

Ж. Адбіткі, якія заставаліся ад прыкладання да паверхні палачкі, якую папярэдне разрэжана перавівалі ніткаю ці вяровачкаю. Такі арнамент часта называюць «ружанцовым» ці проста «калючым дротам» («четочный», «калючая проволока» у рускім
варыянце) (мал. 25: 22, 26).

З. Адбіткі спецыяльнага рабрыстага штампа (?) ці перавязанай вяровачкаю палачкі (?), вузельчыка (?).

На падставе двухузроўневай іерархіі прапануецца класіфікаваць матывы арнаментацыі посуду з Азярнога I. Падтып у гэтым выпадку абазначае спосаб нанясення аздаблення, г.зн. адпавядае падтыпу ў класіфікацыі элементаў арнаментацыі. Групы (1, 2, 3 ...) — спосабы арганізацыі элементаў у пэўны малюнак (мал. 26, 32). Залежнасць матываў ад элементаў відавочная, што абумоўлівае выбар стратэгіі і класіфікацыю праз падтып = элемент => група = разнавіднасць матываў.

Колькаснае размеркаванне элементаў арнаментацыі посуду I тыпу паказана ў Табл. 1 (гл. таксама мал. 24).

З яе вынікае, што ва ўпрыгожванні керамікі I тыпу з вялікім адрывам дамінуюць (74,3 %) лінейныя штампы і насечкі (А). Сярод іх найчасцей сустракаюцца элементы групаў 1, 3, 6 (Al, А3, А6). Другое месца займаюць вусеневыя арнаменты (Е) (10,9 %), сярод якіх пераважае група 2 (Е2). На трэцяе мссца можна паставіць шнуравыя (Г) і зубчатыя (Б) арнаменты, якія складаюць адпаведна 8,8 % і 8,5 %. Рэдка ўпрыгожваўся посуд I тыпу наколамі (В) (1,8 %) і пракрэсленымі лініямі (Д) (0,3 %).

Табліца 3
Колькаснае размеркаванне падтыпаў венчыкаў у кераміцы I тыпу

| падтыпы | А | Б | В | Г | Д | Е | Ж | З | І | К | Л | М |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| колькасць | 8 | 32 | 2 | 3 | 41 | 21 | 1 | 1 | И | 12 | 8 | 6 |

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| K | 5,3 | 25,1 | U | | 27,1 | 14,0 | 0,7 | 0,7 | 7,3 | 8,0 | | 4,0 |

Колькаснае размеркаванне матываў арнаментацыі на посудзе I тыпу паказана ў Табл. 2 (гл. таксама мал. 26).

Найбольшая разнастайнасць малюнкаў утваралася з дапамогаю лінейных штампаў (А) (вылучана 10 групаў), зубчатых (Б) (9 групаў), шнуравых (Г) (7 групаў) і вусеневых (Е) (7 групаў) арнаментаў (мал. 26). Сярод А-падтыпа выключнае месца займаюць матывы групы 3 (А3) — гарызантальныя шэрагі касых штампаў (36,6 %), групы 1 (А1) — гарызантальныя шчыльныя елачныя шэрагі (21,6 %), групы 5 (А5) — гарызантальныя раздвоеныя елачныя шэрагі (10, 2%), групы 2 (А2) — лукагкі (2,9 %). Сярод матываў, створаных зубчатымі арнаментамі (Б), найбольшае значэнне набылі: група 1 (Б1) — гарызантальныя шэрагі касых насечак (5,0 %) і група 2 (Б2) — гарызантальныя шэрагі касых штампаў (2,2 %). Адзначаючы аздабленне з дапамогаю шнуравых арнаментаў (Г), заўважу, адназначна дамінуе група 2 (Г2) — гарызантальныя адбіткі паасобных «шнуроў» (6,7 %). У падтыпе Е (вусеневыя арнаменты) вылучаецца група 4 (Е4) — гарызантальныя елачныя шэрагі (4,3 %), група 3 (Е3) — шэрагі вертыкальных вусеневых касых адбіткаў (1,7 %).

Такім чынам сярод груп матываў назіраецца пэўнае дамінавайне гарызантальных елачных шэрагаў, гарызантальных шэрагаў касых адбіткаў.

Звяртаючыся да марфалогіі посуду I ты пу, статыстычна магчымая колькасць адпа веднага матэрыялу дазваляе якасна класі фікаваць толькі венчыкі (мал. 12), якіх наліч ваецца 151. Колькаснае іх размеркаванне па падтыпах паказана ў Табл. 3 (гл. таксама мал. 12).

Вылучаецца дванадцаць падтыпаў, якія абазначаюцца адпаведна літарамі А-М (мал. 12). Кожны з падтыпаў мае пэўныя разнавіднасці, вылучэнне групаў сярод якіх пакуль не можа быць якасным з~за параўнальна абмежаванай статыстычна колькасці знаходак. Вызначаюцца дамінантныя падтыпы. Да іх ліку, найперш, адносяцца венчыкі Д-падтыпа (27,1 % ад агульнай колькасці ўсіх венчыкаў посуду I тыпа). Яны звычайна маюць пальцавыя зашчыпы па краю, у выніку чаго ўнутраны край венчыка падвойстрываўся і злёгку прыгінаўся ўнутр пасудзін. Б-падтып венчыкаў складае 25,1%: плаўна выгнутыя вонкі з закругленымі краямі. 14% венчыкаў аднесена да Е-падтыпу, марфалагічнай асаблівасцю якіх з'яўляецца выразная скошанасць вонкі, падвойстранасць унутранага краю і невялікая патоўшчанасць у разрэзе. Звяртае на сябе ўвагу параўнальна вялікая

агульная колькасць патоўшчаных венчыкаў — падтыпы I, К, Л, М.

Амаль 8 % керамікі 1 тыпу замешвалася толькі з дробнаю жарствою. Аднак, нягледзячы на такую акалічнасць, гэтая кераміка па сваіх іншых агульных паказчыках мала чым адрознівасцца ад усяго посуду I тыпу. У прыватнасці, яна характарызуецца венчыкамі Е (4 экз.), Б (3 экз.), А (2 экз.), Д (2 экз.) і іншымі. Распаўсюджваюцца падобныя элементы і матывы арнаментацыі, сярод якіх пераважаюць А, Г, Е — падтыпы. Заўважу толькі, што крыху большае значэнне ў ёй набываюць венчыкі А-падтыпу і шнуравыя арнаменты.

Параўнальна невялікая колькасць знойдзеных на паселішчы днішчаў дазваляе вылучыць сярод керамікі I тыпу пяць іх асноўных разнавіднасцяў (мал. 12). Адзначаецца дамінаванне днішчаў 4-ай і 2 ой разнавіднасцяў, якіх адпаведна налічваецца 20 і 16 экз. Іншых адшукана меней: 1-ай разнавіднасці — 5 экз.; 3-яй — 4; 5-ай — 9.
Паводле рэканструкцыі некаторых пасудзін з'яўляецца магчы масць прааналізаваць іх не толькі на ўзроўні мікра але і макрамарфалогіі. У прыватнасці прасочваецца форма пасудзін з венчыкамі А-падтыпу (мал. 13; 17: 2). Гаршкі—1-ыя. Гэта гаршкі з прамымі, звычайна крыху адхіленымі вонкі, венчыкамі (мал. 13; 17: 2; 20: 9, 10). У сярэдняй ці верхняй частцы профіляў венчыкаў назіраецца патаўшчэнне. Верх гаршкоў, у параўнанні з раздзьмутым тулавам, вузейшы. Гаршкі прыземістыя, з вузкім дном (у адным выпадку днішча 1-ай разнавіднасці з дыяметрам 10 см). Вызначаныя дыяметры гарлавін — 16, 18, 24, 30 см. У глінянае цеста такой керамікі замешвалася дробная жарства, шамот, ці адначасова і жарства, і шамот. На знешняй і унутранай паверхнях праглядаюцца рэльефныя, гарызантальна скіраваныя, загладжванні (штрыхоўка). Таўшчыня сценак каля 0,4-0,8 см. Посуд мог ляпіцца са стужак шырынёю да 5 см. Аздабленне найчасцей складалася з лінейных штампаў, насечак, радзей з пракрэсленых ліній, вусеневых і шнуравых арнаментаў. Адзначаюцца элементы арнаментацыі — АЗ, А6, Г1, Д1, Е1; матывы арнаментацыі — Аl, А4, А5, А9, Г2, Д2, ЕЗ. На трох пасудзінах прасочваецца ўпрыгожванне зрэзаў венчыкаў. Дэкорам звычайна пакрывалася толькі верхняя частка гаршкоў: гарлавіна ці прастора да выгіну тулава.

Табліца 4
Колькаснае размеркаванне падтыпау і груп элементау арнаментацыіу кераміцы II тыпу

| Падтып | А | Б | В | Г | д | Е | Ж | З |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Група | 1 | 3 | 6 | 1 | 1 | 2 | 1 | 1 | 2 | 3 | 1 | 1 |
| Колькасць абломкаў | 1 | 2 | 1 | 1 | 1 | 4 | 7 | 1 | 1 | 1 | 74 | 1 |
| Усяго | 4 | | | 1 | 5 | | 7 | 1 | 2 | | 74 | 1 |

Венчыкі падтыпу Д належаць, мяркуючы па некаторых рэканструкцыях формаў посуду (мал. 14; 15: 3), да буйных аб'ёмных гаршкоў дыяметрам па венчыку ад 24 да 34 см (гаршкі — 2-ія). Хоць, верагодна, некаторыя такія гаршкі маглі быць крыху меншымі. У іх плаўна выгнутыя шыйкі, якія пастулова пераходзяць у адносна выпуклае тулава. Разам з тым, сустракаюцца і рабрыстыя гаршкі (мал. 14: 2). Днішчы параўнальна вузкія (дыяметр каля 12-14 см ?). У профілях венчыкаў заўважаецца патаўшчэнне, якое ўтваралася за кошт пальцавых уціскання. Апошнія наносіліся на зрэз венчыка, ад чаго ўнутраны край мог крыху загнуцца ўнутр. Гліна параўнальна шчыльная з дадаткамі шамоту, ці адначасова шамоту і пяску. Колер абломкаў — светла-руды, чырванавата-шэры. Таўшчыня сценак залежала ад памераў гаршкоў (0,35-0,85 см). Характэрна падгары зантальнае, даволі рэльефнае штрыхаванне ўнутранай паверхні пасудзін. Менш заўважнае яно звонку.

Буйныя гаршкі рабіліся з гліняных стужак шырынёю да 5-6 см, па краёх якіх наносіліся пальцавыя зашчыпы. У аздабленні, безумоўна, пераважаюць лінейныя штампы, насечкі. Часам яны спалучаліся з шнуравымі арнаментамі. Звычайна адбіткі шнура змяшчаліся пад венчыкам, на шыйцы, а лінейныя штампы — ніжэй, найбольш верагодна да самага дна, ці нават заходзячы на дно. Адзначаюцца сляды нагару, шго дае падставы залічваць такі посуд да кухоннага.

Прысутнасць нагару на сценках гаршкоў з венчыкамі падтыпу Д дала магчымасць правесці радыявугляроднае датаванне абломкаў двух пасудзін. Гаршчок паказаны на мал 14: 1 прадатаваны на 1630 ± 50 ВС (conv). Другая пасудзіна, амаль ідэнтычная па марфалогіі і арнаментацыі таму гаршку, які паказаны на мал. 15: 3, датуецца адпа ведна 1570 ± 40 ВС (conv) (гл. Дадатак 2).

Па форме, аздабленню, тэхналогіі, а магчыма і прызначэнню, гаршкі з Д венчыкамі маюць шмат агульных рысаў з посудам, верх якога афармляўся ў выглядзе венчыкаў Б, Е (за выключэннем — мал. 17: 3) (мал. 15: 1, 2; 18: 1-5, 7; 19: I, 2, 4-6; 20: 2, 4, 5, 7). Нагадаю, што колькасць венчыкаў Б, Д, Е-падтыпаў складае 66,2 % ад агульнай

колькасці венчыкаў керамікі I тыпу (табл. 3). Гэта азначае, што кераміка з венчыкамі такіх падтыпаў была найбольш масавай на паселішчы.

На паселішчы знойдзены таксама абломкі посуду ад 2-х пасудзін, якія, верагодна, належаць буйным амфарнага тыпу вырабам з моцна раздзьмутым тулавам і, магчыма, параўнальна вузкаю гарлавінаю (мал. 20: 1, 3). Добра адмучаная гліна замешвалася з пяском, дробнымі зярнятамі шамоту. Таўшчыня сценак — каля 0,6—0,7 см. Посуд добра загладжваўся ў верхняй частцы і штрыхаваўся гарызантальна па тулаву. Венчык падтыпу 3.

Некаторыя венчыкі Е-падтыпу маглі належаць міскам. Графічна рэканструяваная верхняя палова адной з іх (мал. 17: 3). Дыяметр па венчыку — каля 27 см. Паверхня гладкая. Гліна добра адмучаная, шчыльная. Таўшчыня сценак — каля 0,7 см. Пасудзіна рабілася са стужак шырынёю каля 5-6 см. Арнамент складаўся з лінейных штампаў, нанесеных у верхняй частцы міскі.

Табліца 5

Колькаснае размеркаванне падтыпаў і груп матываў арнаментацыі ў кераміцы II тыпу

| Палтып | | А | | Б | | В | Г | | | д | Е | | Ж | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Група | 1 | 3 | 5 | 2 1 | 3 | 1 | 1 | 2 | 8 | 3 | 2 | 5 | 1 | 2 | 3 | 4 ! | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 1 |
| Колькасць аоломкаў | 2 | 1 | 1 | 1 | 1 | 4 | 2 | 5 | 1 | і | 1 | 1 | 54 | 1 | 2 | 5 | 7 | 4 | 2 | 1 | 2 | 1 |

Табліца 6

Колькаснае размеркаванне падтыпаў венчыкаў у кераміцы II тыпу

| Падтып | А | Б | В | Г | д | Е | Ж | З | І | К | л | м |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць абломкаў | 6 | 2 | 1 | 1 | 14 | 2 | 4 | 2 | 4 | 1 | 1 | 1 |

Венчыкі Г-падтыпу могуць разглядацца як часткі пасудзін слоікавай формы — нізкіх, прыземістых, параўнальна шырокагорлых (мал. 20: 8; 18: 6). Графічна ўзнаўляецца адзін слоік (мал. 15: 4).

Да шырокагорлых гаршкоў ці пасудзін слоікавай формы адносяцца венчыкі І, К, Л. Яны маглі, верагодна, мець вялікі аб'ём (мал. 16; 17: 1; 21). Паверхня некаторых з іх ангабавалася вадкаю

глінаю. У асобных выпадках ангоб наносіўся надзвычай якасна, прыдаючы выгляд запаліраванасці.

II. 1.2. Другі тып керамікі (мал. 27—31).

Керамікі II тыпу налічваецца больш за 110 абломкаў. Яе ўмоўна можна назваць «жарсцвістаю». У глінянае цеста керамікі II тыпу, як правіла, дадавалася жарства сярэдніх ці крыху большых памераў. Ва ўзоры керамікі II тыпу, які даследаваўся Н.Дубіцкай (гл. Дадатак 1, «образец № 46), штучна ўведзены атлушчальнік складаўся з жарствы граніту, колькасць якога даходзіла да 10 %. Тэмпература абпалу была крыху вышэйшая, чым для даследаванага фрагмента керамікі I тыпу (гл. Дадатак 1). Адзначаецца. што як у першым так і ў другім выпадку выкарыстоўваліся аднолькавыя гідраслюдзістыя мясцовыя гліны.

«Жарсцвістую» кераміку вылучае таксама адпаведная арнамента цыя. марфалогія, апрацоўка паверхні (мал. 27-32).

Кераміка II тыпу аздаблялася наступнымі элементамі арнамента цыі, колькаснае размеркаванне якіх паказана ў Табл. 4 (гл. таксама мал. 24).

Колькасна пануе ружанцовы арнамент (Ж), які з'яўляецца адным з асноўных паказчыкаў керамікі II тыпу. Невялікая роля належыць лінейным штампам (А), наколам (В) і шнуравым арнаментам (Г).

Колькаснае размеркаванне падтыпаў і групаў матываў арнаментацыі посуду II ты па паказана ў Табл. 5 (гл. таксама мал. 32).

Безумоўна, дамінуюць гарызантальныя адбіткі ружанцовых штампаў, з якіх утвараліся шэрагі па ўсяму перыметру пасудзіны (Ж1) (мал. 32). Сярод іншых аздоб з ружанцам пэўнае месца належыць вертыкальным елачным малюнкам (Ж5) (мал. 32), а таксама шэрагам (Ж4, Ж6) гарызантальных лукатак (мал. 32).

Кераміка II тыпу мае гладкую ці ангаба ваную знешнюю паверхню. Толькі ў некато рых выпадках заўважаецца штрыхоўка ці шурпатасць на вонкавай паверхні посуду. Знутры кераміка таксама была звычайна гладкая і вельмі рэдка штрыхавалася.

Марфалагічны аналіз посуду II тыпу дазваляе вылучыць 12 падгруп венчыкаў (А-М) , (мал. 27). Колькаснае іх размеркаванне паказана ў Табл. 6.

Пануе Д-падтып. Меншае значэнне належыць венчыкам падтыпу А, Ж, І.

Прасочваюцца некагорыя больш поўныя формы посуду.

Міскі. Часткова рэканструяваны 2 міскі. Адна з іх мае скошаны вонкі венчык, які пераходзіць у сферычны корпус (мал. 30: 2). У другой міскі — венчык патоўшчаны і закруглены, а форма наблі жаецца да так званых «шаломападобных» (паводле С.С.Беразанскай)

(мал. 30: 1). Дыяметр місак па венчыках мог дасягаць 18-20 см.

Гаршкі. Яны набліжаюцца па сваей форме да так званых «цюльпанападобных» гаршкоў (паводле С.С.Беразанскай) (мал. 29: 1, 3, 4; 30: 3). Дыяметр гарлавіны вагаецца ў межах 11-21 см. Верагодна, да іх мае дачыненне больиасць венчыкаў падтыпау А, 3, 1. У гаршкоў з венчыкамі 3-падтыпа па перыметру шыйкі фармаваліся трохкутныя ў разрэзе выступы. Вызначаныя дыяметры дноў дасягалі 6-8,5 см.

Слоікавы посуд. Магчыма, улічваючы колькасць адпаведных венчыкаў, гэта самыя распаўсюджаныя па форме пасудзіны сярод керамікі II тыпу з Азярнога I (мал. 28: 1-3; 29: 2). Дыяметры іх гарлавін маглі дасягаць 26-35 см. Дыяметры дноў набліжаліся да памераў 12-15 см. Сярод баначнага посуду маглі сустракацца рабрыстыя формы (мал. 28: 1). Характарызуюцца венчыкамі Д, Е, Ж, Л-падтыпаў (мал. 27).

Посуд II тыпа ў большасці выпадкаў пакрываўся арнаментам па ўсёй знешняй паверхні, у тым ліку часта па зрэзу венчыка і па дбнішчу. Аднак сустракаецца посуд без аздаблення, ці арнаментаваны толькі па венчыку, шыйцы і плячуках. Арнаментацыя шматзанальная. На некаторых пасудзінах у якасці аздаблення дадаваўся налеп у выглядзе валіка па перыметру шыйкі (мал. 30: 3). Дзнішчы рабіліся з аднаго кавалка гліны, а венчык патаўшчаўся метадам прымацавання дадатковага глінянага жгута да вонкавага краю.

### II. 1.3. Іншая кераміка эпох і бронзы.

Акрамя вышэйзгаданай керамікі на месцы паселішча знойдзеныя абломкі ад 6-7 пасудзін позняга перыяду эпохі бронзы (мал. 34: 1-3, 6-7). Венчыкі крыху патоўшчаныя і закругленыя, адагнутыя вонкі. Пад краем венчыка — глыбокія наколы.

Зрэдку на адваротным баку ад наколаў утвараліся выпукліны. На абломках адной з такіх пасудзін заўважаецца арнамент у выглядзе шматзубчатага штампа (мал. 34: 2). Верхняя частка амаль ідэнтычнага гаршка знойдзеная на паселішчы лебядоўскай культуры Аташаў (Березанская, 1976, рис. 13: 9, 15). У глінянае цеста такога посуду дадавалася жарства вялікіх і сярэдніх памераў, ад шматлікасці якой паверхня станавілася шурпатаю.

Асобна варта разгледзець графічна рэканструяваную пасудзіну слоікавай формы (мал. 33), якая арнаментавана па шыйцы двума гарызантальнымі шэрагамі кропкавых наколаў. У гліну замешвалася вялікая колькасць здробленай жарствы. Паверхня апрацаваная

неглыбокаю, але вельмі частаю штрыхоўкаю. Дыяметр венчыка дасягаў 24 см. Днішча магло мець у дыяметры крыху болей за 12 см. Таўшчыня сценак — каля 0,8 см.

Паводле марфалагічных адзнак яна нагадвае слоікавыя формы керамікі 1 тыпу з венчыкамі падтыпа Г. Такая тэхналагічная прыкмета як шгрыхаванне паверхні таксама мае найперш аналогіі ў посудзе I тыпу. Разам з тым, у песце прысутнічае шмат жарствы, а шынка арнаменгаваная матывам не зусім характэрным для керамікі I тыпу. Таму атаясамленне яс зтым ці іншым тыпам керамікі пакуль застаецца пад пытаннем.

## II. 2. КРАМЯНЁВЫЯ ВЫРАБЫ

Характарыстыка крамянёвай вытвор часці на паселішчы Азярное I не можа пакуль быць поўнай. Азярное I — адкрыты комплекс, які складаецца з крамянёвых вырабаў мезалітычнага і неалітычнага перыядаў, эпохі бронзы. Паводле маёй лакалізацыі на больш узвы шанай паўночна-заходняй частцы ўрочышча канцэнтраваўся меза літы чны комплекс кудлаеўскай культуры (Кудряшов, Криваль цевич, 1994). Асобныя, мезалітычнага выгляду вырабы, прасочваюцца і на іншых дзялянках урочышча, у тым ліку і ў асноўным раскопе. Аднак найбольш часта сярод вялікай колькасці вырабаў з крэменю у межах раскопу сустракаюцца знаходкі з рысамі неалітычных традыцый апрацоўкі.

Вядома, што апрацоўка крэменю ў меншай ступені, чым, напрыклад, выраб керамікі падвяргалася істотным зменам. Але разам з тым, нельга на такім сцверджанні настойваць. Культурная і храналагічная дыягностыка крэменю, у тым ліку і эпохі бронзы, тэма невычарпальная.

Фіксацыя культурнага і этапнага развіцця паводле крамянёвай вытворчасці на параўнальна невялікім адрэзку часу мае менш шансаў, чым, прынамсі, на падставе зменаў, якія заўважаюцца па кераміцы. Тым больш, што кераміка, асабліва ў неаліце і пачатку эпохі бронзы, акрамя чыста тэхналагічных і марфалагічных навацый, несла ў сабе элементы зменаў духоўных і арнаментацыя сістэмы, размяшчэнне дэкору на паверхні і т.д.).

На першым этапе вывучэння паселішча Азярное 1 найбольш апраўдана вылучыць крамяневы інвентар эпохі бронзы на падставе асаблівасцяў тэхналагічных прыёмаў апрацоўкі крэменя, характэрных для гэтага часу, а таксама паводле найбольш распаўсюджаных тыпаў крамянёвых вырабаў, якія ўжываліся насельніцтвам бронзавага веку і

вызначаны пры разглядзе закрытых комплексаў. Пэўнае значэнне мог мець і характар сыравіны. Крэмень высокай якасці ў эпоху бронзы на тэрыторыі Беларусі верагодна набыў ролю прэстыжнага аб'екта абменных аперацый, актывізацыя якіх у гэты час несумненная.

Аналізуючы крамянёвую калекцыю Азярнога І, якая складаецца не толькі з вырабаў з другаснай апрацоўкай, але і вялікай колькасці рэштак першаснай апрацоўкі (нуклеусаў, адбракаваных канкрэцый, сколаў, адшчэпаў, лускавінак, пласцін і г.д.), варта адзначыць, што на паселішчы найчасцей апрацоўвалася (прынамсі, у мезалітычны і неалітычны час?) крамянёвая сыравіна з мясцовых марэнных адкла даў. Крэмень у такім выпадку найчас цей на зломах непразрысты, жоўтага, бурага, шэрага колеру з адценнямі, са светла-жоўтымі і светла-шэрымі ўключэннямі ў выглядзе круглых ці авальных плям ці ўкрапленняў. Канкрэцыі пакрытыя зелена ватай шкарлупкай. Памеры іх рэдка перавышалі 6-8 см у папярочніку.

Адзначу, што вялікая колькасць вырабаў, якія можна аднесці да позняга неаліту — эпох і бронзы, зроблена з крыху лепшага па якасці крэменю: чорнага ці цёмна-шэрага колеру. У тых выпадках, калі ўдавалася па адходах ідэнтыфікаваць такую сыравіну, заўважалася, што многія канкрэ цыі такога кшталту пакрытая белаю шкарлупкаю прыроднага паходжання. Часта сустракаліся вялікія і шырокія адшчэпы з крэменю згаданай якасці (мал. 37: 12, 13). Гэта вымушае меркаваць. што для апра цоўкі на паселішчы выкарыстоўваліся загатоўкі даволі вялікіх памераў. У такім выпадку варта дапусціць, што жыхары Азярнога І маглі выкарыстоўваць пэўны працэнт прывазной крамянёвай сыравіны.

Ва ўсялякім разе найбольш прэстыжныя вы рабы кшталту вялікіх нажоў, шліфаванай сякеры, долата ды іншыя, якія бясспрэчна могуць адносіцца да самага канца неаліту — эпохі бронзы, у Азярным І зроблены з крэменю чорнага ці шэрага колеру.

Такім чынам, на падставе выяўлення вырабаў са сплашчальнай і струменістай рэтушшу, пільчатым краем, са шліфаванай паверхняю, частым выкарыстаннем чорнага ці цёмна-шэрага крэменю, пэўных марфа лагічных прыкметаў, распаўсюджаных у эпоху бронзы, на паселішчы Азярное І можна вылучыць наступны крамянёвы інвентар, які мае дачыненне да бронзавага веку.

Нажы. Нажы з доўгіх пласцінчатых адшчэпаў, са скошанымі канцамі (мал. 36: 1-6, 8; 37: 4). Сплашчальнаю і струменістаю рэтушшу на такіх вырабах звычайна здыма ліся няроўнасці на спінцы і выраўноўваўся рэжучы край, які, да таго ж, мог падпраў ляцца драбнейшымі сколамі. Адціскная па спосабу нанясення рэтуш

наносілся ад краю ляза, заходзячы на спінку выраба. Рэтуша ваўся ў асобных выпадках і тыльны канец нажа (мал. 36: 1, 3).

У якасці нажоў маглі выкарыстоўвацца таксама параўнальна грубыя тоўстыя сколы, востры рэжучы край якіх падпрацоўваўся сплашчальнай шырокай рэтушшу (мал. 37: 2, 9).

Як рэжучы інструмент, мусіць, выкарыстоўваліся ўстаўныя пласцінкі, з якіх утваралася наборнае лязо. Характар апрацоўкі дазваляе адносіць іх да позняга неаліту — эпохі бронзы. Вялікая пласцінка з шэрага крэменю мае пільчаты рабочы край (мал. 36: 13). Пашкоджаная крамянёвая трапецыя апрацавана па рабрыстай спінцы струменістай рэтушшу (мал. 35: 7).

Шкрабкі. Рабіліся на шырокіх пласцін чатых адшчэпах ці на тоўстых краявых сколах (мал. 37: 1, 6). Пласцінчатыя адшчэ пы, з якіх гатаваліся шкрабкі, мелі патоўшча ны рабочы край. Ён афармляўся доўгаю сплашчальнаю рэтушшу, якая заходзіла на спінку выраба.

Наканечнікі стрэл. Вылучаюцца нака нечнікі трохвугольнай формы з двухбаковай апрацоўкаю. прамою (мал. 35: 5; 36: 12; 37: 5) і ўвагнутаю падставаю (мал. 36: 7). Для некаторых вырабаў адзначаецца прысут насць пільчатай рэтушы па краю.

Сустракаюцца наканечнікі са струменістаю рэтушшу толькі па спінцы і натуральна пляскатым брушком (мал. 36: 10). Знойдзены экземпляр трохвугольнага наканечніка з не прамымі, а выгнутым» бакавымі краям і пяра (мал 36: 11).

На паселішчы выяўлены загатоўкі нака нечнікаў стрэл, найчасцей па той ці іншай прычыне непрыдатных для далейшай апра цоўкі (мал. 35: 2; 36: 9, 14; 37: 3, 7, 8, 10, 11). Паўфабрыкаты часта бракаваліся, магчыма з-за нізкай якасці мясцовай сыравіны.

Адзначаецца адзін чаранковы з двух баковаю апрацоўкаю і падтрохвугольным пяром наканечнік стралы (мал. 35: 6).

Сякеры і долаты. На паселішчы знойдзеныя абломкі адной ці некалькіх шлі фаваных крамянёвых сякер падпрама вугольнай у сячэнні формы (мал. 35: 3). Сякера ці сякеры маюць цалкам шліфаваную паверхню. Зробленыя з шэрага па колеру крэменю.

Апрача таго, адзначаецца іншы экзем пляр прышліфаванай па лязу сякеркі з лінзападобным папярочным сячэннем (мал. 35: 1). Па верхняму краю заўважаюцца сляды падпраўкі канта пад больш зручнае ўваходжанне выраба ў рагавую ці драўляную муфту. Магчыма, сякерка, адзначаючы яе кароткія памеры, з'яўлялася абломкам даўжэйшага выраба.

Вузкая лёзавая частка крамянёвага долата лінзападобнага папярочнага сячэння захоўвала сваю першапачатковую форму (мал.

35: 4). Пра гэта сведчыць характар апрацоўкі верхняга канта выраба: падпраў лены асобнымі сколамі руб канкрэцыі.

Знойдзенае таксама вузкае крамянёвае долата даўжынёю 9,5 см, шырынёю 1-1,9 см, таўшчынёю да 1 см (мал. 35: 8). Паверхня яго цалкам прышліфаваная. Сячэнне прамавугольнае, а ў верхняй частцы амаль квадратнае.

## II. 3. КАМЕННЫЯ ВЫРАБЫ

На паселішчы часта сустракаліся каменныя вырабы, найбольшую колькасць якіх можна залічыць да так званых шліфа вальных плітак. Улічваючы распаўсюджа насць тэхналогіі шліфавання ў эпоху бронзы, варта меркаваць, што многія з іх выкарыстоўваліся менавіта ў гэты час.

Налічваецца 9 абломкаў каменных шлі фавальных плітак (мал. 38: 1-4; 39: 2). У Азярным І яны рабіліся з цвёрдых і шчыльных парод каменя. Для гэтай мэты людзьмі вышукваліся валунчыкі выцягну тай, прыплошчанай з двух бакоў формы ў выглядзе плітак. На адной з гарызантальных паверхняў адбывалася шліфаванне. На камені ўтваралася плаўнае паглыбленне выцягнутай формы. Часам менавіта на месцы западзіны плітка ламалася (мал. 38: 1, 4).

На двух валунчыках даўжынёю 13 і 10,3 см заўважаюцца невялікія прышліфаваныя пляскатасці. Такія камяні маглі выкарыстоўвацца ў якасці цёрачнікаў (мал. 39: 3). Ад трэння сціраўся адзін з выпуклых ці больш менш прыплошчаных участкаў каменя.

На паселішчы знойдзена каменная шліфаваная сякера-клін з папярочным сячэннем блізкім па форме да авала, з крыху прыплошчанымі бакамі (мал. 39: 1). Лязо сякеры моцна збітае. Сляды збітасці заўва жаюцца таксама на тарцовай частцы абуш ка. Даўжыня сякеры — 8,9 см, шырыня — 4,8-5,5 см. Найбольшая таўшчыня — 3,2 см.

# III. ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ

## III. 1. АРХЕАЛАГІЧНАЯ ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ

Вылучаныя матэрыялы эпохі бронзы патрабуюць археолага-куль турнага асэнсавання, г.зн. атаясамлення з тым ці іншым культурным кругам, культурай, групай ці варыянтам археалагічных помнікаў.

Нягледзячы на тое, што апублікаваныя звесткі пра помнікі эпохі бронзы на Палессі надзвычай абмежаваныя, існуе некалькі прапаноў па іх інтэрпрэтацыі. Звярнуся спачатку да тых, якія тычацца ранняга

перыяду эпохі бронзы. Падкрэсліваючы адмысловы характар старажытнасцяў ранняй бронзы ў басейне Прыпяці, У.Ф.Ісаенка прапанаваў вылучыць палескую культуру шнуравой керамікі (Исаенко, 1976а, с. 16-17; Белорусская археология, 1987, с. 25-26). Вобласць яе распаўсюджвання, на думку У.ФЛсаенкі, ахоплівае не толькі заходнюю частку Беларускага Палесся, але верагодна і сумежныя раёны Заходняй Украіны і Польшчы. Пры гэтым, дадае даследчык, найбольш блізкімі да палескай шнуравой керамікі былі стжыжоўскія помнікі (Очерки по археологии Белоруссии, 1970, с. 123-125). Пазней У.Ф.Ісаенка дапускаў магчымасць уключэння ў вобласць распаўсюджвання палескай шнуравой ксрамікі ўсходнепалескіх помнікаў аж да Мазыршчыны (Загорыны І) (Исаенко, 1976 а, с. 16-17).

С.С.Беразанская, аналізуючы матэрыя лы культур шнуравой керамікі Украіны і Беларусі і спасылаючыся на У.Ф.Ісаенку, указвала на магчымасць існавання асобнай археалагічнай культуры шнуравой керамікі, якая лакалізавалася ў басейне Прыпяці і мела адмысловасць у параўнанні як з сярэдне-дняпроўскай, так і з гарадоцка-здоўбіцкай, стжыжоўскай культурам і (Березанская, 1971, с. 40).

І.І.Арцёменка адзначаў, што помнікі з прызнакамі сярэднедня проўскай культуры вядомыя ў Прыпяцкім Палессі аж да Піншчыны (Артеменко, 1972, карта І, с. 22; 1977, с. 35).

Шукаючы аналагі помнікаў тыпу Азярное І, Старым Юрковічам, Загорынам І і інш., распаўсюджаных ва ўсходніх раёнах Прыпяцкага Палесся, я звяртаў увагу на пэўную іх тоеснасць з адпаведнымі матэрыяламі Сярэдняга і Верхняга Падняпроўя. Гэта дало падставу адносіць усходнепалескія паселішчы да асобнага прыпяцкага варыянту сярэднедняпроўскай культуры (Кривальцевич, 1989, с. 111; 1991; 1994; Археалогія Беларусі, 1997, с. 299-303). А таму, найперш, варта разгледзець Азярное І на фоне вядомых помнікаў сярэдне дняпроўскай культуры.

### III. 1.1. Атаясамленне з сярэднедпяпроўскай культурай

У пэўнай ступені з сярэднедняпроўскай культурай атаясамляецца той комплекс матэрыялаў паселішча Азярное І, які звязаны ў той ці іншай ступені з керамікай І тыпу. Пры гэтым варта зрабіць агаворку. Па-пер шае, улічваючы розніцу паміж пахавальным і пасяленцкім рэчавымі комплексамі сярэднедняпроўскай культуры, матэрыял Азярнога І лепш за ўсё параўноўваць з адпаведнымі комплексамі

менавіта пасе лішчаў Сярэдняга і Верхняга Падняпроўя. Разам з тым, я не выключаю, што помнікі з шнуравой керамікай на Сярэднім і Верхнім Дняпры могуць мець такія адмысловыя рысы, якія дазваляюць разглядаць іх не толькі як асобныя варыянты сярэдне дняпроўскай культуры, але і як асобныя культуры (параўнай, напрыклад, Березан ская, 1971, с. 36-49). У такім выпадку для
мяне істотным з'яўляецца тое, што І тып керамікі Азярнога І развіваўся ў большай залежнасці і на агульнай культурнай прасторы з адпаведнымі падняпроўскімі помнікамі.

У адносінах да паселішчаў, як і многіх пахаванняў Сярэдняга Падняпроўя, час ад часу ўздымаецца дыскусія, асноўным прад метам якой застаецца культурная іх прына лежнасць. Змест і сутнасць спрэчак рэпрэ зентаваныя ў адной з публікацый І.Л. Сердзюковай (Serdyukova, 1996, p. 149-150).

Сярэднедняпроўскім варыянтам ката комбнай культуры лічыла паселішчы Сярэдняга Падпяпроўя Т.А.Панова (Попова, 1955, с. 75). Пры гэтым даследчыца адзначала прысутнасць у магэрыяле цэлага шэрагу прыкметаў не характэрных для «катакомбнікаў». У 1960-х гадах, пасля раскопак пад Каневам, С.С.Беразанская і М.М.Бондар выказалі меркаванне пра тое, што паселішчы тыпу Іскаўшчыны на Сярэднім Дняпры пакінула насельніцтва сярэднедняпроўскай культуры. Высновы пацвярджаліся параўнаннем знойдзенага матэрыялу з адпаведным інвентаром паха ванняў, якія яшчэ раней некаторыя дaслед чыкі лічылі належнымі да сярэднедняп роўскай культуры (Березанська, Бондар, 1964, с. 170-179). Паводле В.Г. Ша па ш нікавай Сярэдняе Падняпроўе было занятае як насельніцтвам культуры шнуравой керамікі так і катакомбнай культуры (Шапошникова, 1971). С.М.Братчанка схіляўся да думкі пра адмысловасць культуры катакомбнага насельніцтва на Сярэднім Падняпроўі, гэтым самым прызнаючы прысутнасць «катакомбнікаў» у згаданым рэгіёне (Братченко, 1977).

І.Л.Сердзюкова разглядае Сярэдняе Падняпроўе я к кантактную зону паміж шнуравым і катакомбным насельніцтвам. Яна падзяліла матэрыялы паселішчаў тыпу Іскаўшчына на адпаведныя групы. Дзевяноста працэнтаў керамікі было аднесена да старажытнасцяў катакомбнай культурна-гістарычнай супольнасці, а астатнія да шнуравой керамікі Сярэдняга Падняпроўя (Serdyukova, 1996, p. 150). Шкада, што вынікі класіфікацыі керамікі дагэтуль не рэпрэзента ваныя І.Л.Сердзюковай у спецыяльнай публікацыі, і таму пакуль не могуць выкарысгоўвацца для параўнання з адпаведнымі матэрыяламі Верхняга Паднялроўя і Усходняга Палесся.

Паводле І.Л.Сердзюковай керамічны ком плекс катакомбнай куль ту ры апынаецца на Сярэд нім Падняпроўі ў завершаным выглядзе, г.зн. не маючы мясцовых прататыпаў. Што тычыцца шнуравой керамікі, то яна на Сярэднім Падняпроўі неаднародная. Тут сустракаюцца раннія шнуравыя комплексы (пахаванне ў Грышанцах) (звязанае з агульнаеўрапейскім шнуравым гарызонтам? — М.К.), комплексы са стжы жоўскай керамікай, пахаванне ранняга этапа падкарпацкай культуры (Валадарка), кера міка сярэднедняпроўскай культуры (Serdyu kova, 1996. p. 151). Такім чынам, на Сярэднім Падняпроўі назіраецца шматкампанентная структура культурных традыцый, якая, да таго ж, паводле І.Л. Сердзюковай, усклад нялася прысутнасцю тут прыкметаў характэрных для культуры шарападобных амфар (Serdyukova, 1996, p. 151-155).

Раскопкі аўтарам і І. М. Язэпенкам могільнікаў і паселішчаў ранняга перыяду эпохі бронзы на Верхнім Дняпры, знаёмства з матэрыяламі раскопак І.І. Арцёменкі дазваляюць меркаваць, што пэўныя элементы катакомбнай культуры пранікалі вышэй Кіеўшчыны па Дняпры і прытоках, і такім чынам, прысутнічалі на тэрыторыі Беларусі. І.І.Арцёменка адназначна залічваў згаданыя элементы да традыцый сярэдне дняпроўскай культуры. Аднак спынімся пакуль на тым, што закранутая тэма патрабуе ў перспектыве спецыяльнага і грунтоўнага даследавання.

Калі ж вярнуцца да матэрыялу паселішчаў канеўскай і кіеўскай груп (Бондарь, 1974) і паспрабаваць параўнаць іх з керамікай I тыпу паселішча Азярное I, то можна знайсці даволі шмат тоесных паказнікаў (гл., напрыклад, мал. 41,42). .

Марфалагічна назіраецца падабенства паміж многімі гаршкамі Азярнога I і пласкадонным посудам групы (I і II тып) паселішчаў тыпу Іскаўшчыны. Пры гэтым многія з іх, як і ў Азярным I, маюць вялікія памеры, завужаныя днішчы, патоўшчаныя і скоша ныя венчыкі ў выглядзе «каўнерыка», падобную арнаментацыю. Пры гэтым адрозніваюцца спосабам прыгатавання глінянага цеста і апрацоўкаю знешняй паверхні. На Сярэднім Дняпры найчасцей посуд звонку гладкі, знутры з расчосамі ці заштрыхаваны. Гліняная ма'са замешаная з вялікай колькасцю пяску, ад чаго кераміка станавілася шчыльнаю і цяжкаю. Калі ў Азярным плечыкі гаршкоў плаўна пераходзяць у раздзьмутае тулава, то на Сярэднім Дняпры яны вельмі часта размешчаны высока, а тулава выцягнутае. Праўда сустрака юцца і іншыя формы, якія маюць шмат агульнага з азярнянскімі.

Амфарны тып посуду з Азярнога I мае пэўныя марфалагічныя аналогіі на Сярэднім Дняпры (кераміка I групы, тыпу III паводле

М.М.Бондара). Аднак у Азярным І няма кругладоннага посуду.

Арнаментацыя посуду з паселішчаў тыпу Іскаўшчыны ў многіх сваіх дэталях пераклікаецца з арнаментацыяй Азярнога І. На Сярэднім Дняпры таксама распаўсюдж валася аздабленне ў выглядзе насечак, лінейнага штампа, зубчатых адбіткаў, вусеневых і шнуравых арнаментаў, наколаў, пальцавых зашчыпаў па краю венчыка і г.д. Аднак лінейны штамп, насечкі складаюць тут параўнальна невялікі працэнт (Іскаўшчына — 10 %, Пекары 3 — 11 %, Селішча 2 — 16 %, Селішча 3 — 14,3 % і т.д.).

На канеўскіх паселішчах значная коль касць посуду пакрывалася арнаментам па ўсёй паверхні, у тым ліку і на днішчах. Шырока ўжываліся елачныя ўзоры, зігзагі. Даволі часта елачныя і іншыя ўзоры акаймляюцца насечкамі, наколамі, што зрэдку заўважаецца і ў Азярным І.

Такім чынам, нельга не адзначыць, што паміж керамічным матэ рыялам Азярнога І і паселішчаў канеўскай, кіеўскай груп назіраецца даволі многа тоесных адзнакаў. Праўда, пры гэтым варта ўлічваць тую акалічнасць, што паселішчы тыпу Іскаўшчыны ўзнікалі, як сведчыць І.Л.Сердзюкова, на скрыжаванні рознакультурных традыцый: шнуравых, катакомбных, «амфаравых». Больш дэталь ная праца па вылучэнню адпаведных культурных кампанентаў на Сярэднім Падняпроўі дазволіць сказаць, якія са згаданых традыцый надавалі тую ці іншую тоеснасць помнікам Прыпяцкага Палесся і паселішчам Сярэдняга Дняпра.

Помнікі сярэднеднепроўскай культуры адзначаюцца таксама на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя. Пэўнае і больш-менш завершанае ўяўленне пра яе склалася, галоўным чынам, у 60-70-х гг. у выніку даследванняў І.І.Арцёменкі (1967; 1977). Многія высновы даследчыка засноўваліся на матэрыяле раскопак унікальных магільных комплексаў. Аднак крыху менш увагі ўдзялялася вывучэнню паселішчаў. Ва ўсялякім разе толькі асобныя пасяленцкія комплексы ранняй бронзы былі апублікаваныя цалкам (Артеменко, 1962, с. 64-73) (гл., напрыклад, мал. 43). Вынікі сістэматызацыі матэрыялаў паселішчаўу надзвычай абагульненым выглядзе, тым не менш, публікаваліся І.І.Арцёменкам не адзін раз (Артеменко, 1967; 1977; 1987). Пэўныя звесткі пра паселішчы Верхняга Падняпроўя рэпрэзентаваныя таксама ў працы А.Г.Калечыц (Калечиц, 1987).

Паводле І.І.Арцёменкі на паселішчах сярэдняга і позднляга этапаў сярэднеднепроўскай культуры, у тым ліку і ў Верхнім Падняпроўі (нагадаю, што сярэдні і позні этап сярэднеднепроўскай культуры І.І.Арцёменка датуе адпаведна 2300-1700 і 1700-1400 гг. да н.э.

(1987, с. 41) — М.К.) распаўсюджваецца кухонны посуд з прамымі адагнутымі вонкі венчыкамі і выпуклымі тулавамі, з «каўнерыкамі», а таксама сталовы посуд з выгнутымі шыйкамі і эспадобнымі профілямі. Надзвы чай вялікай папулярнасцю карысталіся гаршкі эсападобнага профіля з параўнальна вузкімі плоскімі днішчамі. Такія гаршкі часта ўжываліся менавіта на познім этапе сярэдне дняпроўскай культуры, маючы шмат агульных рысаў з неалітычным посудам. На тым жа познім этапе пераважае кераміка з арнаментацыяй усёй знешняй паверхні, у тым ліку і доннай. Акрамя гаршкоў выкары стоўваліся кубкі, амфары, слоікі, чашы (плоскадонныя і кругладонныя).

Кераміка арнаментавалася найчасцей лінейнымі штампам і і пракрэсленымі лініямі. Апошнімі звыкла ўтвараліся «заштрихованные треугольники с соприкасающимися сторонами». Ужываліся насечкі, пальцавыя ўціскання, «вусеневыя», шнуравыя і зубчатыя арнаменты. Арнаментальныя матывы звычайна складаліся з гарызантальных шэрагаў, елачных арнаментаў, зігзагаў, дыяганальных і трохвугольных кампазіцый.

Паводле апісання керамікі аднапластавага паселішча Ксяндзова Гара (Артеменко, 1962), гліняная маса посуду моцна пясчаністая, з дамешкаю дробнага кварцу. Дамешкі пяску ў іншых выпадках (посуд 2 і 3 групаў) могуць быць нязначнымі, а жарства ўвогуле адсутнічаць. Знешняя і ўнутраная паверхня пасудзін 1 і 2 групп пакрывалася тонкаю штрыхоўкаю, якая, верагодна, наносілася пучком травы. Трэцяя група керамікі мае добра загладжаную паверхню, шчыльную гліняную масу з невялікімі дамешкамі пяску (мал. 43).

Пахавальная кераміка сярэднедняпроўскай культуры мае шмат адметнасцяў у параўнанні з керамікай паселішчаў. Параўнанне азярнянскага посуду 1 тыпаў з керамікай пахаванняў дазваляе адзначыць падабенства марфалогіі, а ў некаторых выпадках адначасова і арна ментацыі гаршкоў 1-ых, слоікавых пасудзін і пасудзін амфарнага тыпу і, магчыма, іншых керамічных вырабаў з адпаведным посудам могільнікаў у Стрэліцы (п. 4, 9, 40, 43, 45, 81), Ходасавічах (ур. Сяргеява Грыва — кург. 2, п. 1; кург. 1, п. 1, 3) (ур. Палік — кург. 1, п. 1), Сябровічах (п. 13, 14, 33), Пралетарскім (п. 1), Струмені 4 (пахаванні?).

Наступныя арнаментальныя матывы Азярнога I маюць аналогіі ў кераміцы сярэднедняпроўскай культуры: А 1—10; В 1, 2; Г 1, 2, 5; Д 1, 2; Е 2, 3, 5, 6. Многія пахавальныя пасудзіны таксама пакрываліся штрыхоўкай. Некаторыя мелі патоўшчаны венчык (мал. 50: 1).

Прыведзенае апісанне керамікі дазваляе па абсалютнай большасці

прыкметаў атаясамляць І керамічны комплекс Азярнога І з посудам паселішчаў сярэднедняпроўскай культуры. Аднак варта спыніцца на тым, што кераміка Азярнога І мае некаторыя асаблівасці і адметнасці ў параўнанні з верхнедняпроўскім посудам. Найперш, у Азярным І толькі на 2-х абломках заўважаюцца арнаменты ў выглядзе заштрыхаваных трохкутнікаў, бакі якіх сутыкаюцца. Керамічны посуд Азярнога І утрымлівае шмат посуду з адмысловымі шнуравымі арнаментамі, лінейнымі штампамі, насечкамі. Абсалютная большасць посуду Азярнога І гатавалася з шамотнымі атлушчальнікамі, верагодна выкарыстоўваючы ў якасці шамоцістага матэрыялу здробленую старую кераміку. Венчыкі пасудзін Азярнога І даволі часта патаўшчаліся і скошваліся вонкі, утвараючы адмысловы, высока размешчаны «каўнерык». Заўважаецца адсутнасць кругладоннага посуду.

### ІІІ. 1.2. Культурныя кампаненты.

Калі спыніцца толькі на тым, што комплекс керамікі І тыпу Азярнога І атаясам ляецца па большасці сваіх прыкмет з паселішчамі сярэднедняпроўскай культуры, а дакладней тым колам помнікаў з шнуравой керамікай, якія даследаваныя на Сярэднім і Верхнім Падняпроўі, то археалагічна-інтэрпрэтацыйная характарыстыка Азяр нога І будзе далёка няпоўная. Аналіз керамікі, крамянёвага, каменнага інвентару, дазваляе вылучыць наступныя культурныя кампаненты, якія прысутнічаюць у комплексе Азярнога І: прыкметы помнікаў са шнуравой керамікай на захадзе Палесся, Беларускім Панямонні, культуры шарападобных амфар, усходнепалескага варыянту днепра-данец кай культуры, нёманскай культуры. Мяркуецца, што праз абазначэнне культур ных кампанентаў, іх значнасці і храналогіі, можна ўзнавіць працэс фармавання ўсяго комплекса (гл. больш падрабязна пра паняцце «культурны кампанент», напрыклад, у Słownik etnologiczny, 1987, s. 20—22).

#### ІІІ. 1.2.1. Помнікі са шнуровой керамікай на захадзе Палесся.

У.Ф.Ісаенкам многія помнікі са шнуравой керамікай на Палессі, найперш у заходніх раёнах рэгіёна, разглядаюцца ў якасці «палескай культуры шнуравой керамікі» (Белорусская археология, 1987, с. 25-26). Апошняя адрозніваецца ад сярэдне дняпроўскай і збліжаецца са стжыжоўскай культурай. Блізкасць стжыжоўскай культуры і

заходнепалескіх помнікаў адлюстроўваецца ў керамічнай вытворчасці (багатая шнуравая арнаментацыя, штрыха ванне паверхні пасудзін, шамотныя дамешкі да глінянай масы, некаторае марфалагічнае падабенства і г.д.), а таксама ў вытворчасці крамянёвых і каменных вырабаў (Археалогія Беларусі, 1997, с. 304-307). Канцэнтрацыя стжыжоўскіх старажытнасцяў выяўляецца ў вярхоўях Стыры, Гарыні, на Пабужжы.

Мною адзначаецца вялікае падабенства са стжыжоўскай куль турай некаторых пом нікаў міжрэчча верхняй Прыпяці і нізоўяў Гарыні (Крывальцэвіч, 1994, с. 121). Некато рыя стжыжоўскія рысы заўважаюцца і на ўсходзе Прыпяцкага Палесся (Криваль цевич, 1991).

Як і ў Азярным І, на захадзе Палесся распаўсюджваюцца пэўныя ідэнтычныя формы посуду, у тым ліку з «кауперыкамі» на шыйках, завужанымі днішчамі і выпуклымі тулавамі. Але разам з тым на захадзе Палесся сустра каюцца гаршкі з шырокімі днамі і слаба прафіляванымі сценкамі, пасудзіны з «вушкамі», налепамі ў выглядзе «шышачак» (Очерки по археологии Белоруссии, 1970, с. 124), а таксама валікападобнымі выступамі, якія аздабляліся прамакутнымі ўцісканнямі. Верагодна, ужываліся амфары з невысока» шыйкай і вушкамі па найбольш пашыранай частцы корпуса. Часта наносіўся шнуравы арнамент, матывы з удзелам якога адрозніваюцца вялікай разнастайнасцю (Исаенко, 1976 а, с. 16-17). Распаўсюдж валіся таксама лінейныя штампы, насечкі, «вусеневыя» арнаменты, наколы, зашчыпы па краю венчыка, пальцавыя ўціскані, арнаментаванне тарца венчыка, які мог скошвацца вонкі, патаўшчацца і г.д. Паверхня посуду штрыхавалася. У керамічную масу замешвалася дробная жарства, шамот, пясок. Не выключала, праўда, што частка посуду, у адрозненне ад Азярнога І, рабілася з надзвычай вялікай колькасцю пясчаных дамешак, дробнай жарствы.

Як мяркуе У.Ф.Ісаенка, палескія насельнікі, якія ўжывалі шнуравы посуд, карысталіся амаль усімі тымі ж тыпамі крамянёвых прылад, што мелі пашырэнне ў познім неаліце. Гэта, не выключана, назіраецца і ў Азярным І. Больш таго, магло так здарыцца, што высокаякасная крамянёвая сыравіна, ці нават некаторыя вырабы з яе, у пэўнай меры траплялі да жыхароў Азярнога 1 з захаду, у тым ліку і з паўднёвага захаду, г.зн. з заход непалескага рэгіёну.

Прыведзенае вышэй параўнанне, дазваляе адзначыць пэўную ступень тоеснасці адпаведнага комплекса Азярнога І з помнікамі Заходняга Палесся, аднесеных да так званай «групы» ці «культуры палескай шнуравой керамікі» (Археалогія Беларусі, 1997, с. 304-307). Аднак іх нельга, ва ўсялякім разе на ўзроўні сённяшніх нашых

дадзеных, цалкам атаясамляць.

Патрабуе вытлумачэння падабенства некато рых рысаў Азярнога І і стжыжоўскай культуры. У прыватнасці, адрозненні, якія вылучаюць паселішчы тыпа Азярнога І з кола іншых помні каў сярэдне дняпроўскай культуры (гл. вышэй) маюць пашырэнне менавіта на паўднёвым захадзе і захадзе, у тым ліку сярод старажытнасцяў стжыжоўскай культуры. У прыватнасці, кераміка стжыжоўскай культуры інтэнсіўна штрыхавалася звонку і замешвалася часта з шамотам. Для Стжыжова характэрна патаўшчэнне венчыка ў выглядзе невысокага каўнерыка, скошванне края венчыка вонкі. Арнаментаваннем магла ахопліваццa паверхня пад унутраным краем венчыка (параўнайце з Азярным І).

Калі мець на ўвазе помнікі з шнуравой керамікай на захадзе Палесся, то іх повязь з Стжыжовам відавочная. У дачыненні да Азярнога І можна, верагодна, гаварыць толькі пра апасродкаваную (праз Заходняе Палессе?) сувязь з стжыжоўскай культурай. Нельга, дарэчы, выключаць і тую абставіну, што некаторыя адметныя культурныя рысы Стжыжова на захадзе Украіны і на тэрыторыі ГІольшчы маглі ўзнікнуць у выніку ўплываў (на нейкім пэўным этапе?) з поўначы, г.зн. з асяроддзя т.зв. «групы палескай шнуравой керамікі».

### III. 1.2.2. Помнікі са шнуравой керамікай на Беларускім Панямонні

На Беларускім Панямонні помнікі са шнуравой керамікай пакуль не даследаваліся мэтанакіравана. Агляд адпаведнага матэрыялу прыводзіцца М.М.Чарняўскім (Археалогія Беларусі, 1997, с. 307-311). Паводле яго апісання ў гэтым рэгіёне сустракаецца посуд у выглядзе плоскадонных гаршкоў з плаўна выгнутай шыйкай і высокім разгорнутым венчыкам, край якога злёгку прыгнутыя унутр. Адначасова трапляюцца вянцы плаўна выгнутыя без прыгнутасці краю ўнутр. Маглі ўжывацца міскі. Распаўсюдж валіся плоскадонныя гаршкі вялікіх памераў, у тым ліку з прамымі венчыкамі і раздзь мутымі тулавамі. Маюцца дамешкі ў выглядзе пяску, шамоту, дробнай жарствы, вапняку. Даволі часта паверхня посуду штрыха валася, хоць магла ўжывацца і гладкасценная кераміка. Арнамента цыя складалася з адбіткаў шнура, лінейнага штампа, насечак, пракрэсленых ліній. У апошнім выпадку нават з «заштрихован ными треугольниками с соприкасающимися сторонами». Часта ўжываліся

зігзагі, верты кальна размешчаныя елачкі, утвораныя лінейнымі штампамі.

Звяртаючы ўвагу на так званых «шнура вікоў» разглядаемага рэгіёну, мушу адзна чыць, што на Верхнім Панямонні (верагодна толькі ў яго паўднёва-ўсходняй частцы, г.зн. на левых прытоках верхняга Немана, яго вытоках), у Заходнім Палессі (напрыклад, на Ясельдзе) назіраецца прысутнасць некаторых адзнак, якія генетычна звязаныя з сярэднедняпроў скай культурай. Паводле інфармацыі В.Л.Лакізы, на Панямонні сустракаецца посуд з нізкімі і высокімі «каўнерыкамі», «вусеневым» арнаментам, суцэльным пакрыццём паверхні лінейным штампам, насечкамі. Ужываюцца пракрэсленыя матывы, у тым ліку «заштрыхаваныя трохкутнікі». Як і ў Азярным I гліняная маса магла замешвацца з шамотам. Аднак„ калі разглядаць тэты рэгіён больш абагульнена, то на тэрыторыі Верхняга Панямоння дамінуюць традыцыі, характэрныя для прыбалтыйскага шнуравога ачага (Римантене, 1984; Археалогія Беларусі, 1997, с. 311). Пэўныя рысы апошняга тэарэтычна маглі дасягаць паўночных раёнаў Заходняга Палесся.

Падсумоўваючы згаданае вышэй, адзначу, што пакуль цяжка прыйсці да разумення тых узаемадачыненняў, якія складваліся паміж палескімі помнікамі тыпу Азярнога I і панямонскім рэгіёнам. Адзна чаючы агульнасць некаторых рысаў, можна дапускаць пэўную іх узаемасувязь, а таму тэарэтычна не выключаць удзелу некаторых верхнянёманскіх традыцый у фармаванні адпаведнага комплексу Азярнога I.

Пошукі ўзаемасувязі Азярнога I і т.зв. «шнуравікоў» Панямоння вымушаюць звярнуцца да акалічнасцяў узаемадзеяння прыморскага шнуравога ачага і сярэднедняпроўскай кулыуры. Не кранаючы праблемы цалкам, спынюся толькі на некаторых прыкметах Азярнога I, якія, на маю думку, могуць у нейкай ступені атаясамляцца з жуцэўскай (прыморскай) культурай.

У параўнанні з прыбалтыйскімі помнікамі назіраецца падабенства некаторых шырокагорлых гаршкоў жуцэўскай культуры (Rimantiene, 1984, 113 pav.) і гаршкоў 2-іх Азярнога I, а таксама прыбалтыйскіх місак і нізкіх гаршкоў (Rimantiene, 1984, 114 pav.: 1, 3) з баначнымі пасудзінамі Азярнога 1 (венчыкі Г). «Міскі з лейкападобнай шыйкай» жуцэўскай культуры (Prahistoria Ziem Polskich, 1979, rус. 227: 3) марфалагічна можна атаясамляць, у пэўнай ступені, з адпаведнай міскай Азярнога I (мал. 17: 3).

Адзначыць варта і некаторыя мікра-марфалагічныя сходныя рысы посуду. У прыватнасці, выгнутасць венчыка вонкі і загін яго края

ўнутр гаршка, завужанасць дна і адна часова раздзьмутасць тулава, разгорнузасць ці інакш шырокая раскрыгасць гарлавіны кубкаў. Днішчы посуду жуцэўскай культу ры часта нагадваюць разнавіднасці I і 5 днішчаў Азярнога I (мал. 12). Арнамент можа заходзіць унутр гаршка. Посуд амаль увесь плоскадонны. Часта ўжываецца елачны арнамент. Аздабляюцца днішчы посуду. У Азярным I знойдзена невялікае кароткае крамянёвае долата (мал. 35: 8), каменная сякера-клін (мал. 39: 1). Такія вырабы харак тэрныя для комплексаў жуцэўскай культуры (Rimantiene, 1984, 108 pav.: 4, 6; Prahistoria Ziem Polskich, 1979, гус. 226: 9, s. 374).
Улічваючы прыведзенае вышэй, варта дапусціць магчымасць нейкага пэўнага удзелу жуцэўскіх (прыморскіх) культурных традыцый у фармаванні таго комплекса Азярнога I, які звязаны з I тылам керамікі. Магчыма гэта адбывалася апасродкавана праз панямонскіх «шнуравікоў» па шляхах і паводле традыцый узаемасувязі, якая існа вала тут раней у асяроддзі нёманска днепра-данецкага неалітычнага культурнага памежжа (гл. ніжэй). Разам з тым помнікі сярэднедня проўскай культуры тыпу Азярно га I аказвалі і адваротнае ўздзеянне на Панямонне (гл. выліэй), ствараючы такім чынам пэўную культур ную прастору ўзаемадзеяння і ўзаемасувязі.

### III. 1.2.3. Культура шарападобных амфар.

У сучаснай літаратуры дамінуе меркаванне пра сярэднееўра пейскае паходжанне культуры шарападобных амфар (КША). Канцэпцыя «заходняга» паходжання КША мае найбольш аналітычна і канцэптуальна ўзважанае абгрунтаванне (Szmyt, 1996 б, p. 8-9). Паводле Тадэуша Віслянскага, са свайго першапачат ковага рэгіёна, а гэта тэрыторый, якія ляжаць на захад ад Заходняга Буга, пачынаецца міграцыя носьбітаў культуры шарападобных амфар ва Усходнюю Еуропу (Wislanski, 1970, p. 221). Рассяленне на ўсход мела месца з класічнага перыяду KUIA, ці дакладней ад канца фазы II b — пачатку фазы III a (II b—2500-2300/2200 BC (ca 3250/ 3100-2900/2700 BC); III a—2300/2200-1900/ 1800 BC (ca 2900/2700-2400/2150 BC) (паводле Szmyt, 1996 a, s. 75)).

Для насельніцтва КША, верагодна, быў характэрны рухлівы вобраз жыцця, які можа атаясамляцца з вандроўным пастухоўствам. Ад КША захаваліся сляды кароткачасовых паселішчаў ці месцаў кароткача совага знаходжання. Займаючыся жывёлагадоўляй і спадарожным ей земляробствам, «шарападобнікі» найчасцей выкарыстоўвалі натураль

ную пашу ва ўжо раней засел сных рэгіёнах (Kruk, 1980; Kadrów, 1995, s. 113 і інш.). Вялікая колькасць рэчаў прэстыжнага характару ў пахаваннях сведчаць пра існаванне да пэўнай ступені ранжыра ванасці сярод насельніцтва КША (Kadrów, 1995, s. 113).

На тэрыторыі Валыні носьбіты КША з'явіліся крыху пазней, чым у паўднёва-ўсходняй Польшчы. Але іх прысутнасць на Валыні магла быць больш працяглай (Kadrów, Szmyt, 1996, p. ПО). Пачагковы перыяд канцэнтрацыі помнікаў КША на Валыні—Падоліі паводле $C^{14}$ дат (Szmyt, 19% б, fig. 3) адносіцца да (conv) 2360 ± 55 — 19601 50 ВС. На Сярэднім Падпяпроўі элементы КША адзначаюцца У.Л. Сердзюковай для помнікаў сярэднедняпроўскай і катакомбнай культур (Serdyukova, 1996, p. 149—155). Даследчыца не выключае, што на Сярэднім Падняпроўі КША маглі мець больш познюю храналогію, чым дапускалася раней.

Помнікі КША знойдзены на Верхнім Паднянроўі (Аргеменко, 1987, с. 41; Шмидт, 1992, с. 156 162). Варта прызнаць, што КША прыняла актыўны ўдзел у фарміраванні сярэдне дняпроўскай культуры (гл., напрыклад, Kryvaltsevich, 1996, p. 98-102).

Ва Ўсходняй Прыбалтыцы КША ўступі ла ў пэўнае ўзаемадзеянне з нарвенскай, нёманскай культурам і і нейкім чынам (прама і ўскосна) паўздзейнічала на генезіс жуцэў скай культуры (Rimantiene, Ćcsnys, 1990, p. 339—358). Паводле $C^{14}$ храналогіі гэга маг ло адбыцца (conv) 2220 ± ПО — 2120 ± 110 ВС (са 2900-2550 ВС) (Szmyt, 1996 б, fig. 3).

Пахаванні КША на Верхнім Панямонні (Краснае Сяло) датуюцца (conv) 2130 ± 140 ВС (са 2657 ± 190 ВС) на Верхнім Дняпры (Турышчына пад Смаленскам) (conv) 2150 ± 80 ВС (са 2476 ± 120 ВС) (Szmyt, 1996 б, p. 10, 16). Генетычна звязаныя з КША элементы адзначаюцца ў л ясной зоне Усходняй Еўропы ў мясцовых культурах: нёманскай (Исаенко, 1976 б; Чарняўскі, 1979), усвятаўскай (Микляев, 1992), днепра-данецкай (Исаенко, 1976 б), сярэднедняпроўскай (Артеменко, 1987; Kryvaltsevich, 1996, p. 98-102), культурах з шнуравой керамікай (Свешнікаў І.К., Рымантэне Р., Махнік Я. і інш.).

Аналізуючы матэрыял паселішча Азярное I, варта адзначыць прысутнасць у ім иекаторых генетычна звязаных з КША кулыурных кампанентаў. У прыватнасці на кераміцы I тыпу заўважаюцца характэрныя для КША арнаментальныя матывы ў выглядзе зігзагаў, у тым ліку здвоеных, утвораных лінейнымі штампамі ($A2_t$ А6). Зігзагі, а таксама вертыкальныя «елачкі» утвараліся з іншых элементаў зубчатых, вусеневых адбіткаў). Адзначаецца арнаментальны матыў у выглядзе так званых вісячых фестонаў, утвораных наколамі і

спалучаных у адной кампазіцыі з зігзагам (мал. 16: 1).

У многіх комплексах КША знойдзеныя вузкія крамянёвыя шліфаваныя долаты прамакутнага і квадратнага сячэння (Prahistoria Ziem Polskich, 1979, s. 282, 286; Свешников, 1983, с. 13-14), якія з'яўляюцца адным з характэрных вырабаў культуры. Ідэнтычнае долата знойдзенае з ў Азярным І (мал 35: 8).

Паводле І.К.Свешнікава, у якасці дамешак да керамічнай масы валынскія «шарападобнікі» часам выкарыстоўвалі шамот (Свешников, 1983, с. 13). Шамоцістая тэхналогія характэрная для керамікі І тыпу ў Азярным І.

Верагодна элементы КША у Азярным 1 з'явіліся ў выніку не прамога, а ўскоснага ўздзеяння. Яны маглі наследвацца і пераходзіць разам з культурнымі традыцыямі позніх этапаў днепра-данецкай, нёманскай неалітычных культур. Магчыма пра гэта сведчаць некаторыя арнаментальныя матывы, характэрныя для КША, якія ўвасабляліся зубчатымі, вусеневымі элементамі (зігзагі, вертыкальныя елачкі і г.д.). Такія ж матывы сустракаюцца ў нёманскай і днепра-данецкай культуры (мал. 47, 48).

Згаданыя культурныя кампаненты КША ў Азярным маглі таксама распаўсюджвацца з асяроддзя тых «шнуравых» групаў насельніцтва, якія ўжо адчулі на сабе «амфарнае» ўздзеянне. У прыватнасці гэта ў найбольшай ступені тычыцца палескай групы шнуравой керамікі і помнікаў з шнуравой керамікай па Верхнім Панямонні, стжыжоўскай культуры.

Адзначаныя «амфарныя» элементы Азярнога І знаходзяць пэўныя аналогіі ў арнаментацыі паўночнабеларускай культуры (параўн., напрыклад, Зайковский, 1994, рис. 1,2,4; Микляев, 1995, рис. 6; Археалогія Беларусі, 1997, мал. 125, 126 і г.д.). Паўночнабеларуская культура магла пераняць «амфарныя» традыцыі ад «шнуравікоў» Прыбалтыкі, якія знаходзіліся пад непасрэдным уплывам КША.

Больш таго, Заходняя Дзвіна магла быць адмысловым «калідорам», па я кому з Балтыйскага ўзбярэжжа на Волгу і Дняпро пранікалі многія сярэднееўрапейскія культурныя Тpaabmbii(Szmyt, 1996 6, p. 18).

Прысутнасць у дзвінска-ловацкім міжрэччы «амфарных» культур ных прыкмет А.М.Мікляеў адзначаў ужо для усвяцкай культуры на яе сярэдняй—позняй фазе (Микляев, 1992, с. 44; Szmyt, 1996 б, p. 17-18, rys. 3).

Такім чынам, нельга не прызнаць, што некаторыя культурныя прыкметы КША мелі свае значэннс пры фармаванні адпаведнага комплекса ў Азярным І. «Амфаровыя» традыцыі, ў той ці іншай меры,

прасочваюцца, як быццам. па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Непасрэднае пранікненне КША на тэрыторыю Беларусі і ўзаемадзеянне з мясцовым насельніцтвам магло адбывацца ў познім неаліце — раннім перыядзе эпохі бронзы (паводле беларускай перыядызадыі — Археалогія Беларусі, 1997). КША, акрамя ўсяго іншага, адчувальна паўплывала на фармаванне культур ранняга перыяду бронзавага веку, у тым ліку і на Беларусі.

### III 1.2. 4. Усходнепалескі варыянт днепра-данецкай культуры

Усходнепалескі варыянт днепра-данецкай культуры быў вылучаны і ахарактэры заваны У. Ф. Ісаенкам (Исаенко, 1967, с. 48-106; 1972, с. 45-68; 19786; Археалогія Беларусі, 1997, с. 127-145). Тэрыторыя распаўсюджвання помнікаў усходнепалес кага варыянту ўваходзіць у вобласць паселішчаў з грабенчата-накольчатай керамікай. Ар залы варыянту прыпадаюць на ўсходнепалескі рэгіён ад Гарыні, Лахвы, Пцічы з Арэсай і далей на поўначы да лініі Бабруйск-Рагачоў-Ветка, дасягаючы ніжняй Бесядзі. Азярное 1, як і іншыя суседнія неалітычныя помнікі Паарэсся (напрыклад, Любань 1, Старыя Юрковічы 1 і інш.) размешчаныя на паўночна-заходніх ускраінах усходнепалескага варыянту, што мяжуюцца з нёманскай культурай.

Асаблівасці помнікаў усходнепалескага варыянту акрэсліліся на этапе В (2800/2 700-2500/ 2300 гг. да н. э.) сярэдняга неаліту. У другой пало ве (2100/2000-1800/1700 гг. да н. э.) позняга неа літу днепра-данецкая культура перажывае свой IV этап. У гэтым выглядзе, г. зн. сваім IV этапам, культура дажывае толькі на Палессі (мал. 47).

Неалітычны матэрыял Азярнога 1 рэпрэзентаваны як ранейшымі, так і IV-ым этапамі ўсходнепалескага варыянту днепра данецкай культуры. У дадзеным выпадку цікавасць выклікае менавіта IV этап, які сінхранізаваўся з адпаведнаю фазаю развіцця сярэднедняпроў скай культуры.

Чацвёрты этап у Азярным 1 прадстаўлены керамікай, у тым ліку той яе часткаю, якая аздаблялася грубымі шнуравымі арнаментамі, занальнымі «лапчатымі адбіткамі» (мал. 51:4;5; 52). Некаторыя вен чыкі аформленыя ў выглядзе «каўнерыка» (мал. 52:2,3,6; 53). Паводле У. Ф. Ісаенкі «каўнерыкі» з'явіліся на ўсходзе Палесся яшчэ ў сярэднім неаліце.

Многія неалітычныя пасудзіны Азярнога 1 маюць добра вылуча ныя шыйкі, круты злом пры пераходзе ад верхняй да ніжняй паловы. Посуд параўнальна добра загладжаны - звонку, а часам і знутры.

Найчасцей ў якасці адтлушчальніка выкарыстоўваецца жарства. Часта праглядваюцца сляды ад дробнай раслiннай дамешкi.

Некаторыя характэрныя для усходне палескага варыянту днепраданецкай куль туры прыкметы прысутнiчаюць у той цi iншай форме ў кераміцы I тыпу і крамянёвай вытворчасці эпохі бронзы паселішча Азярное 1. У прыватнасці, параўноваючы мікрамар фалогію посуду, нельга не заўважыць наступнае. Аб'ёмныя гаршкі 2-ія керамікі I тыпу маюць некаторыя традыцыі мясцовай неалітычнай культуры. Папершае, яны даволі аб'ёмныя, як і большасць посуду IV этапу ўсходнепалескага варыянту днепра данецкай культуры, у прыватнасці тыпаў VII, VIII паводле У. Ф. Ісаенкі (1976б). Па-другое, іх аб'ядноўвае і тое, што яны. параўнальна, шырокагорлыя, выпуклабокія ці са зло мам пры пераходзе ад верхняй да ніжняй часткі. Днішчы завужаныя. Заўважу, што гаршкі 2-ія — найбольш масавы посуд I тыпу на паселішчы.

Бачныя і некаторыя іншыя мікрамарфа лагічныя паралелі. У прыватнасці, афармленне верхняй часткі ў выглядзе так званага «каўнерыка»(I тыл керамікі — венчыкі В, Е, Г), не вельмі выразная прафілёўка шыйкі (I тып керамікі — венчыкі Г, Д). Край венчыка на многіх неалітычных пасудзінах скошваўся вонкі і аздабляўся арнаментам, што назіраецца і на кераміцы I тыпу.

Аднак найбольш выразная пераемнасць прасочваецца ў аздабленні посуду. Зашчыпная арнаментацыя края венчыка, якая часта адзначаецца для керамікі I тыпу эпохі бронзы — адзін з самых распаўсюджаных і даволі архаічных спосабаў аздаблення неалітычнай керамікі. Неалітычныя элементы арнаментавання маюць працяг у выглядзе зубчатых (Б) (ад архаічных грабенчатых) і вусеневых адбіткаў (Е), наколаў (В). Пры гэтым традыцыйны для ранняй бронзы арнамент — шнуравы — складае ў Азярным 1 толькі 8,8%.

Адзначу таксама некаторую пераемнасць у матывах арнамен тацыі. На кераміцы I тыпу, як і на мясцовым неалітычным посудзе, дамі нуе аздабленне ў выглядзе гарызантальных шэрагаў нахіленых адбіткаў ці елкавых узораў. Пры гэтым вельмі часта, як і ў неаліце, арнаментацыя пакрывае ўсю паверхню пасудзіны. Асабліва гэта тычыцца гаршкоў 2-іх. Некаторыя арнаментальныя сістэмы амаль паўтараюць шырока распаў сюджаныя ў мясцовым неаліце традыцыі аздаблення керамікі, калі чаргуюцца гары зантальныя шэрагі з вертыкальна апушчаны мі зонамі арнаменту (мал. 14:1) ці дыяганаль нымі стужкамі (мал. 14:2). У познім неаліце Усходняга Палесся надзвычай часта ужыва ецца матыў акаймлення шэрагаў гарызан тальных грабенчатых адбіткаў наколамі. У некаторых выпадках гэта

ж прасочваецца і ў кераміцы I тыпу Азярнога 1. Заўважаюцца ямачныя арнаменты над краем венчыка (мал. 18:1).

Вылучаныя мною крамнёвыя вырабы ў многіх выпадках ідэнтычныя тым, якія У. Ф. Ісаенка адзначаў для неалітычных комплексаў IV этапу (Исаенко, 1976б, с. 90, 92, 94). Для апошняга, паводле У. Ф. Ісаенкі, характэрна ўжыванне прышліфоўкі рабочых частках прылад, пільчатай рэтушы (у прыватнасці для наканечнікаў стрэл), часцей за двухбаковую рэтуш пашырэнне падчэсвання рабочага краю з адваротнага боку, распаўсюджванне «состругива ющей» рэтушы па спінцы вырабаў, частае ўжыванне сякерападобных і рэжучых прыладаў. Традыцыйнымі для позненеалітычных компле ксаў з'яўляюцца разнастайныя плас цінчатыя нажы. Сустракаюцца трохкутныя наканечнікі стрэл з двухбаковай апрацоўкай, трапецыі з часткова «соструганной» спінкай, прамавугольныя ўстаўкі.

У многіх выпадках пры ідэнтыфікацыі крамянёвых вырабаў эпохі бронзы ўзнікалі пэўныя цяжкасці. У прыватнасці, многія з іх могуць атаясамляцца з вырабамі позняга неаліту, кераміка якога прысутнічае ў Азярным 1. З іншага боку, якасны ўзровень апрацоўкі крэ меню ў канцы неаліту—пачатку эпохі брон зы дасягае свайго найвышэйшага росквіту. Тыя прыёмы крэмнеапрацоўкі, якія пашыра ліся ў познім неаліце, маглі замацавацца «ў традыцыях» і працягвалі існаваць крыху пазней. Але да якога часу яны не забываліся? На якім этапе развіцця эпохі бронзы адбываюцца істотныя трансфармацыі ў спосабах апрацоўкі і ўжывання крэменю?

Верагодна, такі пералом адбыўся бліжэй да сярэдняга перыяду бронзавага веку. Ва ўсякім разе для тшцінецкай культуры адзна чаецца забыццё і згуба многіх рансйшых да сягненняў крэмнеапрацоўкі (Березанская, 1972; Dąbrowski, 1972; Budzi szewski, 1997, s. 7-8).

Прыведзеныя вышэй разважанні даюць пэўныя падставы для ўстанаўлення сувязі многіх вылучаных мною крамянёвых вырабаў Азярнога 1, галоўным чынам, з керамікай 1 тыпу. Пры гэтым варта дапус ціць, што па якасных паказчыках крамнеап рацоўка мала змянілася ад часоў позняга неаліту. У ранні перыяд бронзы на матэрыяле Азярнога 1 назіраецца пераемнасць пэўных традыцый крэмневытворчасці ад мясцовага насельніцтва IV этапу днепра-данецкай культуры. Не выключана пры гэтым, што ў ранні перыяд бронзавага веку жыхары Азярнога 1 часцей карысталіся больш якаснай крамянёвай сыравінай. якая магла паступаць з паўднёва-заходніх, заходніх рэгіёнаў.

III. I. 2. 5. Нёманская культура

Як ужо адзначалася, Азярное 1, як і некаторыя іншыя суседнія неалітычныя помнікі Паарэсся (Любань 1, Старыя Юрковічы 1 і інш.), размешчаны на паўночна-заходняй ускраіне ўсходнепалескага варыянту днепра-данецкай культуры, г. зн. у непасрэднай блізкасці ад нёманскай культуры. Апошняя, паводле М. М. Чарняўскага, займала заходнюю частку вобласці культур з грабенчата-накольчатай керамікай (Археалогія Беларусі, 1997, с. 145). Асобныя варыянты нёманскай культуры вылучаюцца на паўночным захадзе Беларусі і Заходнім Палессі.

У. Ф. Ісаенкам выяўлены цэлы шэраг паселішчаў позняга перыяду нёманскай культуры ў Заходнім Палессі (Исаенко, 1976б) (мал. 48). Для паўночна-заходняга варыянту вылучаецца позні (трэці) этап (тыпу паселішча Добры Бор) (Чарняўскі, 1979) (мал. 49).

Што тычыцца неалітычнага матэрыялу Азярнога 1, то ў ім сустракаецца кераміка, якая магла ўзнікнуць пры непасрэдным ўздзеянні суседняй нёманскай культуры (гл., напрыклад, мал. 51: 1,2, 3). У Азярным 1 знойдзена некалькі венчыкаў позненеалітычнага часу, у разломах якіх заўважаліся сляды вяровачкі. Яе, верагодна, закатвалі разам з глінаю пад край гаршка. Такі прыём фармоўкі венчыка адзначае для Панямоння М. М. Чарняўскі (Чарняўскі, 1979, с. 51). У Азярным 1 у двух выпадках на месцы вяровачкі пад краем венчыка ўтваралася патаўшчэнне кшталту «каўнерыка». Г. зн., што «каўнерык» мог у некаторых выпадках фармавацца з нагоды неабходных тэхналагічных прыёмаў.

Вяртаючыся да керамікі 1 тыпу з Азярнога 1, варта звярнуць ува гу на некаторыя ідэытычныя з нёманскай культурай марфалагічныя прыкметы. Найперш, як для Заходняга Палесся, так і для Панямоння даследчыкі адзначаюць адмысловасць афармлення верхніх частак пасудзін. У прыватнасці, яны рабіліся з высокімі разгорнутымі венчыкамі (гл. напрыклад мал. 19: 1,3,4,6). Некаторыя венчыкі крыху патаўшчаліся, іншыя маглі ўтвараць «каўнерык». Традыцыя менавіта такой марфалогіі гаршкоў пачынае ўзнікаць яшчэ на лысагорскім этапе нёманскай культуры. У нейкай ступені падобны спосаб афармлення верхняй часткі гаршкоў назіраецца ў кераміцы I тыла Азярнога 1.

Заўважу таксама, што паверхня многіх пасудзін позняга этапа нёманскай культуры выраўноўвалася пры дапамозе штрыхаван ня. Штрыхоўка — адзін з яркіх адзнакаў керамікі I тыпу эпохі бронзы ў Азярным 1.

У арнаментацыі позняй керамікі нёман скай культуры вялікая роля адводзіцца насечкам. Насечкі, як і некаторыя іншыя арнаменты,

кампанаваліся ў гарызанталь ныя шэрагі, якія раздзяляліся кароткімі адбіткамі, наколамі, уцісканнямі. Гэта назіраецца даволі часта і ў кераміцы 1 тыпу з Азярнога 1. Ужываюцца вусеневыя арна менты, адбіткі шнура.

У нёманскай культуры распаўсюджваліся арнаментальныя матывы кшталту елачных узораў з насечак, прамакутных уцісканняў, ламаных зігзагаў, якія запаўнялі шырокія зоны на паверхні гаршка. Гэга ж можна адзначыць і для керамікі I тыпу Азярнога 1.

Позні этап нёманскай культуры, паводле М. М. Чарняўскага і У. Ф. Ісаенкі, адносіцца да канца III—першай паловы II тыс. да н. э. Дапускаецца, што нейкія групы насельніц тва позняга этапу нёманскай культуры маглі праіснаваць да сярэдзіны II тыс. да н. э.

Такім чынам, ёсць пэўныя падставы меркаваць, што акрамя традыцый ўсходне палескага варыянту днепра-данецкай куль туры, на фарміраванне комплекса керамікі I тыпу Азярнога 1 маглі паўплываць і некаторыя традыцыі нёманскай культуры.

### III. 1. 2. 6. Высновы.

Той комплекс матэрыялаў паселішча Азярное 1, які ў той ці іншай ступені звязаны з керамікай I тыпу, атаясамляецца з сярэдне дняпроўскай культурай. Ва ўсялякім разе, большасць адзначаных прыкмет кера мікі Азярнога 1 мае аналогіі з адлаведнымі комплексамі Сярэдняга і Верхняга Падняпроўя. Праўда, на паселішчах тыпу Іскаў шчыны (Сярэдні Дняпро) выяўляецца даволі складаная шматкампа нентная культурная аснова, з прысутнасцю традыцый катакомбнай, сярэднедняпроўскай культур, КША і інш. Пры гэтым катакомбная культура на сярэднім Дняпры магла выконваць не апошнюю ролю. Тым не менш ёсць даволі шмат падстаў уключаць Азярное 1 у сферу распаўсюджвання адзнакаў сярэдне дняпроўскай культуры.

Разам з тым, вызначаецца, што комплекс керамікі I тыпу і спада рожных яму крамянё вых вырабаў, мае даволі шмат іншакультур ных адзнакаў. Для большасці з іх можна знайсці аналогіі сярод помнікаў так званай «культуры» ці «групы палескай шнуравой керамікі». Апошняя мела шмат тоесных рысаў са стжыжоўскай культурай.

Заўважаюцца пэўныя паралелі з помнікамі шнуравой керамікі Верхняга Панямоння, г. зн. прасочвасцца нейкая залежнасць Азяр нога 1 ад прыморскага шнуравога ачага. Разам з тым некаторыя прыкметы, характэрныя для Азярнога 1, распаўсюджваюцца ў Верхнім Панямонні.

Фармаванне Азярнога 1 адбывалася таксама ў залежнасці ад мясцовага неалітычнага культуркага асяроддзя. Многія неалітычныя традыцыі сталі неад'емным кампанентам комплексу ранняга перыяда эпохі бронзы.

У Азярным 1 адзначаюцца некаторыя куль турныя элементы, якія генетычна звязаны з КША. Магчыма, пранікненне іх адбывалася апасродкавана, разам з традыцыямі позняй нёманскай, днепра-данецкай культур, ад груп «шнуравога» насельніцтва Заходняга Палесся, Верхняга Панямоння ці нейкім іншым шляхам.

Такім чынам, адпаведны комплекс Азярнога 1 узнікаў на шматкампанентнай аснове (мал. 40), дамінантнае значэнне ў якой займалі прыкметы, якія распаўсюджаны ў асяроддзі помнікаў сярэднедняпроўскай культуры. Сярод іншых культурных кампанентаў найбольшае значэнне належала традыцыям помнікаў групы палескай шнуравой керамікі.

### III. I. 3. Атаясамленне з усходнім “Тшцінцом”

Старажытнасці тшцінецка-сосніцкага часу на Беларусі звычайна разглядаюцца ў рамках тшцінецка-камароўска-сосніцкай агульнасці, якая ў эпоху бронзы распаўсюдж валася на прасторах Сярэдне-Усходняй Еуропы ад басейна Одры на захадзе да Падзясення на ўсходзе і існавала ў межах 15-11 стст. да н. э. На думку адных даследчыкаў яна ўяўляла сабою агульнасць культур з цэлым шэрагам тоесных прыкмет (Gardawski, 1959; Березанская, 1972). Паводле меркавання іншых "феномен тшцінецкі" быў не чым іншым, як "гарызонтам культурнай інтэграцыі" ці гарызонтам цыркуляцыі рознакультурнага прадстаўніцтва на памежжы "раннябронза вай цывілізацыі" Усходняй і Заходняй Еўропы (Kośko, 1991, s. 36-37).

"Тшцінец" звычайна падзяляюць на ўсходні і заходні. Апошні некаторымі даследчыкамі разглядаецца ў якасці тшцінецкай ці заходнетшцінецкай культуры, якая распаўсюджвалася ў Польшчы і, верагодна, ў суседніх раёнах Заходняга Палесся, Беларускага Панямоння і Заходняй Валыні (Dąbrowski, 1972). Усходні "Тшцінец" ці усходнетшцінецкая культура (Беразанская, 1972) пашыралася на ўсходзе да Падзясення і складалася (паводле С. С. Беразанскай) з шэрагу групаў, адна з якіх, сосніцкая, на думку некаторых даследчыкаў можа разглядацца ў якасці самастойнай культуры і ахопліваць прасторы (паводле І. І. Арцёменкі) Сярэдняга і Верхняга Падняпроўя. Падзясення, заходзячы ў Прыпяцкае Палессе і нават

цэнтральныя раёны Беларусі.

Аднак тэрытарыяльнае размежаванне "Тшцінца", ва ўсялякім разе на тэрыторыі Беларусі, застаеіша пакуль прадметам дыскусіі (Крывальцэвіч, 1995, с. 3-32). Прычына тых цяжкасцяў, з якою сустракаюцца даследчыкі, не толькі і не столькі ў ступені археалагічнай вывучанасці рэгіёнаў, але і ў асаблівасцях самога "Тшцінца", падабенства матэрыялаў якога такое вялікае, што нельга вызначыць у поўнай меры межы асобных культур ці груп; паміж імі існуюць даволі шырокія пераходныя тэрыторыі (Dąbrowski, 1972, s. 215). Гэта, дарэчы, адна з тых прычын, якія апошнім часам вымушаюць некаторых спецыялістаў ставіцца да "Тшцінца" як да "гарызонту культурнай інтэграцыі".

З другога боку, адным з аргументаў на карысць "гарызонту" сталі высновы кшталту тых, што няма аніводнай таксанімічнай рысы, якая дазволіла б успрымаць "круг тшцінецкі" як цэласць і адрозніваць яго ад іншых утварэнняў. На прасторах, арэсленых як тшцінецкая тэрыторыя, паводле Януша Чабрашука, утварылася вялікая мазаіка пахавальных абрадаў, спосабаў пасялення, стылістыкі керамікі, каменных, крамянёвых і металічных вырабаў (Czebreszuk, 1996, s. 154-158). Некаторымі польскімі грхеолагамі развіваецца думка пра тое, што памежны рэгіён Усходняй і Заходняй Еўропы ад нізін Віслы да лясных і лесастэпавых зонаў Права бярэжжа Дняпра яшчэ з неалітычных часоў быў нестабільнаю сістэмаю супольнасцяў, у межах якой ішоў працэс цыркуляцыі рознакультурнага прадстаўніцтва. У выніку працяглых узаемных кантактаў і ўплываў стварауся "тшцінецкі гарызонт" — цыкл падобных і параўнальна адначасовых комплексаў (Kośko, 1991, s. 36—37). Магчы ма, працэс тшцінецкай інтэграцыі мог адбывацца на нейкім сталым кампаненце, ці інакш у выніку акультурацыі, напрыклад, з прытокам паўднёвых уплываў (Kośko, 1991).

Іншыя даследчыкі развіваюць гіпотэзу "нізовага" генезісу "Тшцінца". У прыват насці Януш Чабрашук мяркуе, што самыя старажытныя элементы "Тшцінца" з'явіліся на нізінах Сярэдне-Усходняй Еўропы. Першапачатковая вось культурнага развіцця праходзіла па лініі ўсход—захад. Ідэя пэўнага "пакету адзнакаў" распаў сюджвалася ў асяроддзі рознакультурных праяў, якія з'ядноўваў, па-сутнасці, неалітычны ўклад жыцця. На некаторых тэрыторыях гарызонт тшцінецкі перарос у стабільныя культурныя ўтварэнні (напрыклад, у лужыцкую культуру), на іншых працягваў доўгі час быць нестабільнаю супольнасцю (Czebreszuk, 1996, s. 154—158; 1997, s. 13—14).

Гіпотэза "тшцінецкага гарызонту" мае пад сабою пэўны грунт і рацыю і, найперш, у дачыненні да заходняга "Тшцінца". Тэарэтычна і ўсходні "Тшцінец" можа разглядацца ў якасці гарызонту. Тым больш, у папярэдні ("эпішнуровы") час, напрыклад, той жа ўсходнетшцінецкі рэпен нестабільнаю сістэмаю рознакультурных праяў. Разгляд "Тшцінца" поўдня Беларусі як культурнага феномена нельга пакуль лічыць спробаю ўдалаю. А ідэнтыфікацыя палескіх помнікаў у складзе "тшцінецкага гарызонту" патрабуе, найперш, больш грунтоўнай працы з кантрэтнымі паселішчамі і могільнікамі.

Вывучэнне Азярнога 1, як і папярэдняе даследаванне комплекса з Бухліцкага Хутара 1 (Крывальцэвіч, 1994), і ёсць першыя спробы комплекснай сістэматызацыі матэрыялаў усходняга "Тшцінца" з Прыпяцкага Палесся.

На даступным матэрыяле мною таксама рабілася спроба вызначыць тэрытарыяльнае размеркаванне тых ці іншых тшцінецкіх прыкмет на поўдні Беларусі. Выявілася пэўная іх неаднароднасць. Напрыклад, у сярэднім і ніжнім цячэнні Прыпяці, пераважна ўздоўж самой Прыпяці і ў нізоўях Гарыні, Сцвігі, Убарці і некаторых іншых лева  і правабярэжных прытокаў папярэдне вылучаецца група помнікаў (турава- мазырская ці прыпяцкая), якая мае шмат агульных рысаў з кіеўскаю і ровенскаю (валынскаю) групамі ўсходняга "Тшцінца". Тут мелі таксама нейкае дачыненне традыцыйныя для ніжняй Прыпяці сувязі з падняпроўскімі помнікамі сосніцкага тыпу.

На поўначы Палесся, пераважна ўздоўж некаторых левабярэжных прытокаў Прыпяці, адзначаюцца помнікі, якія папярэдне вылучаныя ў паўночнапалескую групу. Асноўныя матэрыялы для яе харак тарыстыкі атрыманыя падчас раскопак паселішча Азярное 1, дзе вызначаецца кераміка II тыпу, што адпавядае ўсходнетшцінецкаму (тшці нецка-сосніцкаму) гарызонту помніка (Крывальцэвіч, 1995, с. 3-32: Археалогія Беларусі, 1997, с. 330—340).

Керамікай II тыпу рэпрэзентуецца пэўная разнавіднасць усходняга "Тшцінца" у адным з яго паўночных варыянтаў. Мяркуючы па кераміцы, верагодна, назіра ецца пэўная ідэнтычнасць Азярнога 1 з помнікамі сосніцкага тыпу і турава-мазыр скай групы. Але, напрыклад, у адрозненні як ад тых гак і ад гэтых у Азярным 1 практычна няма традыцыйных пракрэсленых, жалобчатых ліній, звісаючых "заштрыха ваных трохкутнікаў". Больш увагі ўдзяля ецца елкавым матывам, зігзагам і г. д.

Слоікавы посуд Азярнога 1 вылучаецца багаццем арнаментацыі, больш крутым перагінам на корпусе і вялікшы памерамі. Рабрыстасць,

ці дакладней, біканічнасць, верагодна, — вынік наследавання мясцовых традыцый папярэдняга часу. Аб'ёмныя шырокагорлыя біканічныя гаршкі са зведзенымі ўнутр краямі вядомыя ва ўсходнепалескім варыянце днепра-данецкай культуры (Исаенко, 19766, рис. 40:1,4). Адзін з тазах гаршкоў графічна ўзноўлены на неалігычным матэрыяле Азярнога 1 (мал. 51:4). Біканічныя формы посуду вылучаюцца таксама ў І тыпе керамікі Азярнога 1.

На паўднёвых помніках турава -мазырскай групы (гл., напрыклад, Бухліцкі Хутар І — Крывальцэвіч, 1994) вялікае значэнне надавалася аздобам у выглядзе валіка, папулярнымі былі пасы гарызантальных пракрэсленых ліній у спалучэнні з рыскамі, ямкамі, што зусім не характэрна для Азярнога 1.

Посуд Азярнога 1 вылучаецца большай разнастайнасцю матываў арнаментацыі, што, мусіць, будзе характэрна і для іншых паў ночнапалескіх помнікаў (Крывальцэвіч, 1995). Дамінуе матыў з гарызантальных адбіткаў у лінію, якая спалучаецца з "елач каю" (мал. 29:2). Часта наносіцца елачны арнамент. Пры гэтым вялікае значэнне надавалася ружанцовым адбіткам (Ж).

Найчасцей посуд Азярнога 1 пакрываўся шматзанальнай арнаментацыяй па ўсёй паверхні ці па большай яе частцы. Верагодна, гэта характэрна для ранняй керамікі II тыпу. На поўдні арнаментацыя звычайна абмяжоў валася зонаю верхніх частак пасудзін — ад венчыкаў да плячукоў.

Шмат агульных рысаўназіраецца паміж керамікай II тыпу Азярнога 1 і керамікай сосніцкага тыпу. Некаторыя адметнасці сосніцкага посуду Падняпроўя апісала С. С. Беразанская (1972, 1974) і І. І. Арцёменка (1977). Як і на Падняпроўі ў Азярным 1 сустракаецца посуд з больш-менш выразным перагінам на корпусе, завужанаю гарла вінаю і выпуклым тулавам. Распаўсюдж ваецца кераміка, якая аздабляецца па ўсёй паверхні з выкарыстаннем вялікай колькасці ружанцовага, зубчатага арнаментаў, штампа ў выглядзе "перавітага шнура" (вусеневы арнамент). Назіраецца падабен ства ў некаторых матывах аздаблення. Але, як ужо згадвалася вышэй, у Азярным 1 няма "звісаючых трохкутнікаў" — асноўнага матыва на сосніцкай кераміцы.

Тэарэтычна можна дапускаць, што кераміка II тыпу прайшла дзве асноўныя фазы развіцця. На ранняй магла арнаментавацца найчасцей зубчатымі, вусеневымі, шнуравымі арнаментамі, ліней нымі штампамі, наколамі, насечкамі. Могуць трапляцца нават пасудзіны са слядамі баразначак, якія заставаліся ад прыгладжвання паверхні. Апісаныя вышэй рысы, верагодна, найперш сведчаць пра

пераемнасць і далейшае развіццё традыцый сярэднедняпроўскай культуры з уключэннем у яе склад мясцовага неалітычнага кампанента. Посуд позняй фазы адпавядае многім паказчыкам класічнага усходняга «Тшцінца», калі найчасцей выкарыстоўваліся ружанцовыя арнаменты, распаўсюджвалася кераміка з валікам, адна — двухзанальнай арнаментацыяй, сканцэнтраванай, як правіла, у верхняй частцы пасудзін. Ва ўсялякім разе, такога кшталту фармальная зменлівасць адбываецца ў тшцінецкім асяроддзі суседніх тэрыторый (Паўночнай Украіны, Польшчы — гл., напрыклад, Березанская, 1972, 1982; Gardawski, 1959; Dąbrowski, 1972; Taras, 1995 і інш.). На поўначы Палесся, у басейне Арэсы позняй фазе, верагодна, адпавядаў невялікі керамічны комплекс са Старых Юркович 1 (Крывальцэвіч, 1988).

Абсалютная большасць керамікі I тыпу з Азярнога 1 характарызуе позні этап прыпяцкай групы сярэднедняпроўскай культуры (Кривальцевич, 1994, с. 122-132), тэта значыць папярэднічае тыпу II керамікі таго ж Азярнога 1, аднесенай да тшцінецка -сосніцкага гарызонта помніка.

Комплексы керамікі I тыпу сустра каюцца і на іншых помніках Прыпяцкага Палесся (Кривальцевич, 1994, с. 122-132), а асобныя яе разнавіднасці ці адзінкава рэпрэзентаваныя экзэмпляры вядомыя з раскопак у басейне Ясельды, на Верхнім Падняпроўі, на левых прытоках Верхняга Немана (напрыклад на Шчары) (інфармацыя В. Л. Лакізы) (мал. 50).

Такая кераміка, акрамя уласна "шнуравых" (г. зн. сярэднедняпроўскіх) традыцый нясе ў сабе і адзнакі мясцовага ляснога неаліту, пры намсі , элементы арнаментацыі (вусеневыя, зубчатыя), суцэльнае аздабленне па ўсёй паверхні, у тым ліку зрэзаў венчыкаў, днішчаў, пальцавыя зашчыпы па краю пасудзін, вялікія памеры гаршкоў і іх раздутасць, шыракагорласць, біканічнасць і г. д.

І. І. Арцёменка відаць меў рацыю, калі сцвярджаў, што адна з асаблівасцяў позняга этапу сярэднедняпроўскай культуры — прысутнасць неалітычных рысаў, што, па яго сведчанню, азначала асіміляванне прышлым 'шнуравым" насельніцтвам мясцовых неалітычных жыхароў. Верагодна, ў перадтшцінецкі час, г. зн. на познім этапе сярэднедняпроўскай культуры, адбываецца вельмі актыўнае ўзаемадзеянне, а ў многіх выпадках праяўляецца вынік такога ўзаема дзеяння культур ці груп перажытачнага ляснога неаліту з насельніцтвам сярэдне дняпроўскай культуры.

Калі зноў вярнуцца да паселішча Азярное 1, то этап існавання насельніцтва сярэднедняпроўскай культуры тут змяняецца

тшцінецка-сосніцкім перыядам, што вынікае, найперш, з аналізу керамікі. Замест пануючай раней "шамоцістай" кера мікі пачынае жыць тэхналогія выкарыстання «жарствы». Па сваіх прызнаках "жарсцві стая" кераміка (гл. вышэй) адпавядае тшцінецка-сосніцкаму гарызонту помніка і вылучаецца ў II тып. Магчыма, пашырэнне такой тэхналогіі абумоўлена актывізацыяй ці канчатковым паглынаннем неалітычнай традыцыі, якая, як вядома, заснаваная на выкарыстанні жарствы ў якасці асноўнага атлушчальніка (параўнай, напрыклад, Czebreszuk, 1996, s. 158).

На ранняй фазе, я кую тэарэтычна можна вылучыць на матэрыяле керамікі II тыпу, посуд мае шмат рысаў, якія перайшлі ад керамікі I тыпу: шнур, лінейны штамп, зубчаты і вусеневы арнаменты, елкавыя ўзоры, ламаныя зігзагі, патаўшчэнне і скошанасць вонкі венчыкаў, эспадобнасць профіля, слабапрафіляванасць і біканічнасць некаторых пасудзін, завужанасць дна, пакрыццё арнамснтам усёй паверхні, зрэдку сляды загладжвання паверхні і г. д.

Прыводзячы пэўныя комплексныя аналогіі знойдзенага матэры ялу, г. зн. ранняй фазе ўсходняга "Тшцінца", мушу звярнуць ўвагу на паселішча Ісакаўка, што на Житоміршчыне (Украіна), дзе, паводле аўтараў публікацый, заўважаецца пера емнасць у выніку непе рарыўнага развіцця, якое адлюстроўвае пачатковы этап фармавання ўсходняга "Тшцінца" з добра захаваным кампанентам сярэднедняп роўскай культуры (Беразаньска, Охрйменко» Пясецкнй, 1987, с. 52-53) (мал. 50:17-26).

Беларускія даследчыкі, кажучы пра перадтшцінецкі час у Верхнім Панямонні, Заходнім Палессі, звычайна звяртаюць ўвагу на дзве адмысловыя групы шнуравой керамікі, адпаведна, палескую шнуравую і шнуравую кераміку Верхняга Панямоння. Аднак заўважу, у маім разуменні гэтыя групы варта разглядаць у якасці не столькі ўласна "шнуравога гарызонту'', а як з'яву больш складаную па свайму культурнаму зместу. Больш дакладна, яна ўяўляе сабою спалучэнне трох асноўных кампанентаў: уласна "шнуравога", "амфаравага" (ад культуры шарападобных амфар) і "дабра борскага" (позні этап нёманскай культуры). Роля кожнага з гэтых кампанентаў была розная ў залежнасці ад этапнасці і мікрарэгія нальнасці развіцця.

Звяртаючы ўвагу на "шнуравы" кампанент, мушу адзначыць, што на Верхнім Панямонні (магчыма толькі ў яго паўднёва-ўсходняй частцы, г. зн. на левых прытоках Немана, яго вытоках), у Заходнім Палессі, напрыклад, на Ясельдзе, назіраецца прысутнасць некато рых адзнакаў, якія генетычна звязаныя з сярэднедняпроўскай культурай. Аднак, калі разглядаць гэтыя рэгіёны больш абагуль нена, то на

тэрыторыі Верхняга Панямоння дамінуюць помнікі з адзнакамі характэрнымі для прыбалтыйскага шнуравога ачага Гпрыморскага" паводле Р. Рымантэне). Пэўныя яго рысы даходзяць да Заходняга Палесся, аднак большае значэнне на захадзе Палесся належыць традыцыям шнуравой керамікі, якія маюць шмат агульнага з культурам і суседняй Валыні (напрыклад, старажытнасцямі стжыжоўскай культуры).

Такім чынам, у Заходнім Палессі, Верхнім Панямонні "Тшцінцу" мог папярэднічаць этап даволі складаных адносін, якія ўзніклі паміж трыма асноўнымі культурнымі традыцыямі: "шнуравой", "амфарнай", "дабраборскай". Пакуль даволі складана гаварыць пра характар і дынаміку гэтых адносін, месца кожнага з адзначаных культурных кампанентаў, але вынікам іх быў, як сёння ўяўляецца, мясцовы "Тшцінец", які, дарэчы, тут меў адмысловы характар, г. зн. пераходны ад "Тшцінца" ўсходняга да заходняга.

Адначасова, у суседніх раёнах Польшчы такое ўзаемадзеянне розных культурных плыняў выявілася ў развіцці груп помнікаў тыпу Лінін і наступным з'яўленнем падляска-мазавецкага "Тшишца", які мае свой працяг на захадзе Беларусі, г. зн. заходзячы на абшары позняй нёманскай культуры.

Такім чынам, як і ў выпадку з Азярным 1, так і ў дачыненні да іншых помнікаў поўдня Беларусі, "вырастанне" "Тшцінца" адбывалася пераважна на мясцовым группе культур і груп, якія развіваліся ў перадтшцінецкі час. Апошні вызначаўся ўзаемадзеяннем розных культурных традыцый, шматкампанентнасцю. Пачатковае узнікненне "Тшцінца" магло быць працэсам інтэграцыі разрозненных культурных кампанентаў.

Акрамя таго, тэрытарыяльна-групавыя адрозненні ўсходняга "Тшцінца" у Прыпяцкім Палессі — паўночнапалеская і турава-мазырская групы — маглі ўзнікнуць цягам рэагавання на знешняе ўздзеянне (паўднёвы імпульс), напрыклад, праз Валынь, Сярэдняе Падняпроўе.

### III. 1. 4. Мікрарэгіянальны агляд помнікаў

Азярное 1 — не адзінае паселішча эпохі бронзы, лкое было знойдзена на берагах возера Вячэра. Кераміка і некаторыя іншыя вырабы ідэнтычныя адпаведным комплексам Азярнога 1 сустракаюцца на месцазнаход жаннях .Азярное 2А, 2Б, 3, 4 (мал. 2). Помнікі размешчаныя кампактна вакол возера, ствараючы, такім

чынам, пэўны мікрарэгіён, абасоблены, верагодна, ад іншых згру вашчанняў ідэнтычных помнікаў, бліжэйшыя з якіх сустракаюцца ўздоўж ракі Арэсы (Крывальцевіч, 1991).

Азярное 2А. Сляды паселішча эпохі бронзы знойдзеныя за 0,9 км на паўднёвы  захад ад вёскі Азярное, на пясчаным паўднёва-ўсходнім мысападобным выступе берага Вячэры (больш падрабязнае апісанне тапаграфіі і матэрыялаў Азярнога 2 гл. у Крывальцэвіч, 1996, с. 147-168). Вышыня пагорка дасягае 4 м над поймай возера. Раней, паводле звестак мясцовых жыхароў, тут прасціраліся пясчаныя раздувы. У 1970 х гадах на месцы выдзьмаў былі распраца ваны копанкі для какаплення азёрнага сапрапеля, якімі, практычна, амаль цалкам былі знішчаныя рэшткі культурных пластоў паселішча. Пры павярховых зборах мне ўдалося знайсці больш за 10 абломкаў керамікі ідэнтычнай ад посуду 1 тыпу Азярнога 1 (мал. 55: 20-28).

Азярное 2Б. Верагодна, на пэўным этапе, на месцы прымысавай падводнай зоны возера, насупраць Азярнога 2 А магло існаваць яшчэ адно паселішча эпохі бронзы. Касцяныя, рагавыя, керамічныя і крамянёвыя вырабы каменнага і бронзавага вякоў паднятыя з дна возера. Большасць з іх у мае рукі трапіла пасля таго, як іх удалося сабраць у копанках адстойніках. Копанкі напаўняліся доннымі адкладамі возера падчас здабычы азёрнага сапрапеля з дапамогаю земляекачальных машын. Тэрыторыя распаўсюджвання падводных культурных рэштак лакаліза ваная шляхам фіксацыі той азёрнай зоны, у якой вяліся асноўныя работы і дзе траплялiся знаходхі. Глыбіня вады ў межах вызначанай акваторыі возера ў сярэднім каля 1,5 м, максімальная магутнасць донных адкладаў — 3,9 м. У возеры знойдзена больш чым 125 касцяных, рагавых прыладаў і іх вызначальных рэштак. Большасць іх рэпрэзентуе комплексы вырабаў мезалітычнага і неалітычнага перыядаў (Крывальцэвіч, 1996, с. 147—168), хаця і не выключана, што пэўныя тыпы іх маглі ўжывацца пазней, менавіта ў эпоху бронзы.

Сярод знойдзеных у Азярным 2Б абломкаў керамічнага посуду, які спадарожнічае касцяному і рагавому інвентару, можна вылучыць комплексы днепра-данецкай і сярэднедняпроўскай культур. Адшукана некалькі абломкаў керамікі, якая нагадвае II, г. зн. тшцінецкі тып посуду Азярнога 1.

Налічваецца 1094 абломкі (рэшткі прыблізна ад 100 пасудзін) керамікі днепра-данецкай культуры і 49 фрагментаў посуду сярэдне дняпроўскай культуры. Па сваіх асноўных паказніках неалітычны посуд Азярнога 2Б набліжаецца да адпаведнага матэрыялу позненеалітычных усходнепалескіх помнікаў днепра-данецкай

культуры, у прыватнасці паселішча Юравічы 4. Адсутнасць лапчатых, шнуравых арнаментаў, невялікі працэнт лінейных штампаў, параўнальна вялікая колькасць посуду са слаба прафіляванымі венчыкамі, прысутнасць слядоў раслінных дамешак у гліняным цесце дазваляюць адносіць неалітычны керамічны матэрыял Азярнога 2Б да больш ранняга часу, чым IV этап днепра-данецкай культуры, і датаваць адпаведна не пазней канца 111 тыс. да н. э. (Крывальцэвіч, 1996, с. 164) (мал. 54).

Кераміка сярэднедняпроўскай культуры мае даволі шмат прыкметаў ідэнтычных да посуду 1 тыпу Азярнога 1. Адзначу толькі, што ў адрозненні ад яе, у Азярным 2Б знойдзена колькі гладкасценнай керамікі, а венчыкі рэпрэзентуюцца выключна Б падтыпам (гл. Азярное 1) (мал. 55:1-19). Ці не можа ў такім выглядзе кераміка Азярнога 2Б складаць комплекс, які ўзнік крыху раней чым абсалютная большасць І тыпу керамікі Азярнога 1? Калі гэта сляды паселішча, то яно магло з'явіцца на возеры ў сухі малаводны перыяд сярэднесуббарэальнага пацяплення (паводле М. А. Хоцінскага) (Хотинский, 1978, с. 13; 1977, с. 163-164), Сыходзячы з геахраналагічнай шкалы глейных адкладаў Дняпра, да выключна сухога малаводнага перыяду аднесеныя XIX-XVIII стст. да н. э. (Швец, 1978, табл. 6). У міжрэччы Заходняй Дзвіны і Ловаці для адпаведнай рэгрэсіі вадаёмаў (рэгрэсія 5) А. М. Міклаевым атрыманы наступныя радыёвугляродныя даты — conv: 17501 70, 1740± 70, 1670± 80 годы да н. э. (Микляев, 1995, с. 21, табл. на с. 11). Паводле А. М. Мікляева, трансгрэсія, якая наступіла пазней, прывяла да гібелі палевых азёрных паселішчаў фазы І паўночнабеларускай культуры на тэрыторыі Дзвінска-Ловацкага міжрэчча (Микляев, 1995, с. 21).

Такім чынам, не выключана, што кераміка ранняга перыяду эпохі бронзы ў Азярным 2Б магла быць пакінутая ў перыяд XIX-XVIII стагоддзяў да н. э. (conv.), ці ва ўсялякім разе, да пачатку XVII ст. да н. э.

Азярное 3. Прыблізна за 2 км на паўночны  захад ад вёскі Азярное, каля паўночна-заходняга берага возера, сярод меліяраваных поплаўных балот, на месцы невялікага ўзвышша — сляды паселішча ранняга перыяду бронзавага веку. Вышыня пагорка — каля 5 м над поймай возера. На разбуранай дарогаю паверхні, акрамя неалітычнай керамікі, паднята некалькі фрагментаў посуду, які нагадвае І тып керамікі Азярнога 1 (мал. 55:29-30).

Азярное 4. Сляды паселішча эпохі бронзы знойдзеныя на паўднёва-заходнім беразе возера, ва ўр. Смалянка, на месцы трыангуляцыйнага знака, больш за 2 км на паўднёвы  захад ад вёскі Азярное.

Вышыня пагорка, на якім адзначаюцца сляды паселішча, складае больш 5-6 м над поймай возера. На разбуранай паверхні зрэдку трапляюцца абломкі керамікі, якая нагадвае I тып посуду Азярнога 1 (мал. 55: 31-34). Насупраць ур. Смалянка на дне возера ў 1980-я гады рабочыя земснарада знайшлі каменную свідраваную сякеру ці матыку. якая не захавалася. Паводле іх сцвярджэнняў, там жа ў возеры сустракалася шмат вялікіх камянёў.

З прыведзенага вышэй агляду вынікае, што на возеры, з Азярным 1 уключна, адзначаецца 5 месцазнаходжанняў ранняга перыяду бронзавага веку. Кераміка іх у асноўнай сваёй масе ідэнтычкая і збліжаецца з 1 тыпам посуду Азярнога 1. Гэта дазваляе меркаваць; што адкрытыя пункты — сляды знаходжання людзей, якія аб'ядноўваліся вельмі цеснымі культурнымі сувязямі. Іх культурная роднасць магла азначаць, улічваючы абмяжаваную мікрарэгіянальнасць, далучанасць да пэўнага, абасобленага ад іншых, сацыяльнага утварэння.

## III.2. ХРАНАЛОГІІ

Абсалютная храналогія паселішча Азярное 1 вызначаецца на падставе радыёвугляроднага датавання нагару на абломках посуду I тыпу і параўнання тыпаў з храналагічна вызначанымі комплексамі

Адносная храналогія помніка выглядае наступным чынам. Самы ранні матэрыял эпохі бронзы ў Азярным 1 — комплекс звязаны з 1 тыпам керамікі. Ён атаясамляецца з прыпяцкім варыянтам сярэднедняпроўскай культуры. Пазней на месцы паселішча з'яўляецца кераміка II тыпу, якая адпавядае тшцінецка-сосніцкім адзнакам. Фрагменты керамікі, якія нагад ваюць аналагічныя вырабы лебядоўскай культуры (паводле С. С. Беразанскай) засталіся ад позняга перыяду бронзавага веку. Адзначаецца таксама кераміка ранняга этапу мілаградскай культуры.

Распаўсюджанне сярэднедняпроўскай культуры на тэрыторыі Беларусі, паводле І. І. Арцёменкі, магло адбыцца на сярэднім і познім этапах, якія датуюцца адпаведна 2300-1700 і 1700-1400 гадамі да н. э. (Артёменко, 1987, с. 41). Першы тып керамікі Азярнога 1 мае ана логі сярод адпаведнага матэрыяла паселішчаў і могільнікаў Верхняга Падняпроўя, паселішчаў Сярэдняга Падняпроўя.

Не выключана, што ў склад комплекса I тыпу керамікі Азярнога 1 уваходзяць знаходкі не толькі позняга, але і сярэдняга этапаў (этапы паводле І. І. Арцёменкі) развіцця сярэднедняпроўскай культуры. Гэта

вынікае з наступнага.

Раней я ўжо выказваў дапушчэнне, згодна з якім большасць посуду Старых Юрковіч 1 — паселішча з керамікай сярэдне дняпроўскай культуры на Арэсе (мал. 44, 45, 46), можа адносіцца да часу крыху ранейшага, чым асноўная частка керамікі І тыпу з Азярнога 1 (Кривальцевич, 1991; 1994). Нягледзячы на культурную ідэнтычнасць двух паселішчаў, размешчаных на адлеппасці каля 10 км адно ад другога, назіраюцца пэўныя істотныя адрозненні ў кераміцы. У прыватнасці, у Старых Юрковічах 1 шмат посуду з прамымі венчыкамі, якія крыху адхіляліся вонкі (Крывальцэвіч, 1988, с. 79—83) (параўнай з падтыпам А Азярнога І), менш посуду з а ы гнутым і і адагнутымі вонкі венчыкамі (падтып Б у Азярным 1). «Каўнерык», які як спосаб афармлення венчыка ўжываўся ў Старых Юрковічах 1, рабіўся нізкім і часта прасочваўся на посудзе з венчыкам падтыпу А. Пры гэтым "каўнерык" падкрэсліваўся ў многіх выпадках вусеневымі адбіткамі, якім надаецца ў арнаментацыі амаль такое ж значэнне, як і лінейнаму штампу. Тулавы посуду пукатыя і аб'ёмныя. Разам з тым, назіранні над тапаграфіяй Старых Юрковіч 1, некаторыя акалічнасці размяшчэния знаходак, улічваючы пры гэтым дрэнную захаванасць тут культурнага пласта эпохі бронзы, вымушаюць не выключаць уваход жання ў склад паселішча і асобных пахаванняў. Пахавальны посуд сярэдне дняпроўскай культуры мае адметную стылістыку, марфалогію і г. д. Але аднача сова, як комплекс пасяленскі, Старыя Юрко вічы 1 (мал. 44-46) маюць пэўныя аналогіі з Ксяндзовай Гарой (параўн., мал. 43).

Такім чынам, параўнальна-тыпалагічны аналіз дае некаторыя падставы меркаваць, што большасць керамікі І тыпу ў Азярным 1 была пакінутая на позні́м этапе сярэднедняпроў скай культуры. Аднак гэта не выключае, што некаторая частка посуду можа датавацца больш раннім перыядам, які, мусіць, не выходзіць на рамкі сярэдняга этапу сярэднедняпроўскай культуры (паводле І. І. Арцёменкі). Да сярэдняга этапу, верагодна, улічваючы комплекс ксрамікі Старых Юрковіч 1, Ксяндзова Гара, можа адносіцца нейкая частка посуду з А, Б венчыкамі. На позні́м этапе, як вынікае з керамічных тыпаў Азярнога 1, часцей выкарыстоўваўся посуд з Е, Д, Г, І, К, Л венчыкамі.

Апошняе мае назіранне можна падцвердзіць тым, што патаў шчэнне і скошанасць вонкі венчыка будзе дамінаваць на тшцінецкім этапе існавання паселішча. На карысць познеэтапнага датавання большасці керамікі І тыпу з Азярнога 1 сведчаць атрыманыя для адпаведнага посуду (гаршкі 2-ія з венчыкамі Д) радыёвугляродныя

даты. Нагадаю іх: (conv) 1630± 50 ВС і (conv) 1570± 40 ВС (гл. Дадатак 2).

Адзначаючы некаторыя тэндэнцыі развіцця стылістыкі мясцовай керамікі, мяркую, што яны маглі мець некалькі этапных адзнак. Больш ранняя кераміка — гэта найчасцей посуд з венчыкамі А, высокімі каўнерыкамі (як у старых Юрковічах 1), позняя — у большасці выпадкаў посуд з эспадобным профілем і кароткім «каўнерыкам». Па-сутнасці, у фінале свайго культурнага развіцця верхняя частка пасудзін — патоўшчаныя, са скоша ным вонкі краем, венчыкі.

Падставай для ўдакладнення датавання помніка могуць паслужыць храналагічныя рамкі ўваходжання таго ці іншага культурнага кампанента. Мною адзначаліся агульныя прыкметы Азярнога 1 і групы палескай шнуравой керамікі. Апошняя знаходзілася ў пэўнай залежнасці ад стжыжоўскай культуры, ва ўсякім разе мела з ёю многа тоесных прыкмет. І. К. Свешнікаў датаваў стжыжоў скую культуру на Валыні прыблізна ў межах 1800-1600 гадоў да н. э., сінхранізуючы яе з адпаведнымі фазамі межановіцкай культуры (Свешников, 1990, с. 72). Апошнім часам удакладнена храналогія межановіцкай культуры на тэрыторыі Польшчы. Паводле С. Кадрава стжыжоўская культура з'яўляецца ў часе класічнай фазы межановіц кай культуры і знікае ў канцы позняй фазы (Kadrów, 1995, s. 20—21). Класічная і позняя фазы датуюцца адпаведна (conv) 1750-1550 ВС (cal 2050-1800 ВС) і (conv) 1550-1350 ВС (cal 1800-1600 ВС) (Kadrów, Machnikowie, 1992, s. 90-101; Kadrów, 1991, s. 50-61; 1995, s. 17-24). Сыходзячы з гэтага стжыжоўская культура, верагодна, развівалася каля conv 17-14 стст. да н. э.

І. І. Арцёменка адзначаў, што на познім этапе сярэдне дняп роўскай культуры адчуваюцца пэўныя вынікі асіміляцыі мясцовых неалітычных культур, што адлюстроўвалася ў з'яўленні некаторых новых формаў керамікі і развіцці адпаведных арнаментальных тэмаў.

Кераміка І тыпу Азярнога 1 мае паказчы кі, якія успрымаюцца ў якасці неалітычнага культурнага кампанента. Дажываючы на Палессі ў выглядзе IV этапа, днепра данецкая культура, ў сваю чаргу, пераняла некаторыя традыцыі сярэднедняпроўскай культуры.

Дагэтуль характар ўзаемаадносін (акультурацыя?) і прамежак часу, у якім дзве культурныя сістэмы маглі мець агульныя стасункі, застаюцца не зусім зразумелымі. У. Ф. Ісаенка мяркуе, што перыядам суіснавання быў IV этап днепра-данецкай культуры 2100/2000-1800/1700 гады да н. э. (Исаенко, 19766). Чацвёрты этап прыпадае на сярэдні перыяд сярэднедняпроў скай культуры (паводле 1. І.

Арцёменкі). Аднак той жа Ісаенка У. Ф. дадае, што насельніцтва палескага варыянту днепра-данецкай культуры «прыняло ўдзел у складванні куль туры перыяду сярэдняй бронзы» (Исаенко, 1983, с. 73). Услед за А. Гардаўскім і Э. Кем пісты М. М. Чарняўскі прыходзіць да высно вы, што нашчадкі носьбітаў нёманскай куль туры і блізкія ім культурныя групы Польшчы з «грабенчата-накольчатай» керамікай дажываюць да сярэдзіны 2 тыс. да н. э. і ўдзельнічаюць у фармаванні тшцінецкай культуры (Чернявский, 1978, с. 45).

У Азярным 1 таксама знойдзеныя матэ рыялы IV этапу днепра-данецкай культуры. Яма 6 паселішча Азярное 1 змяшчала развал неалітычнай пасудзіны з нахіленымі адбіткамі грубага тоўстага шнура. Неалгтычны гаршчок з ямы 6 ідэнтыфікуецца з посудам IV этапу днепра-данецкай культуры (мал. 52: 7). Яма перакрывалася напластаваннямі культурных рэштак, сярод якіх угрымліваліся абломкі посуду 1 тыпа, што сведчыць пра больш позні перыяд з'яўлення алошніх (мал. 5: А).

Такім чынам, паводле храналогіі днепра данецкай і сярэдне дняпроўскай культур, а таксама маючы на ўвазе стратыграфію ямы 6, абсалютная большасць керамікі I тыпу ў Азярным 1 магла трапіць у культурны пласт пазней 1700 гадоў да н. э. Гэтая дата, улічваючы хісткасць храналагічных канструкцый позняга неаліту — ранняга перыяду бронзы на поўдні Беларусі, безумоўна, не павінна успрымацца ў якасці бездакорнага «рэпера». Яна можа паслужыць толькі як арыентыровачная адзнака той пэўнай мяжы ў часе, пасля якой ў Азярным 1 наступіў позні этап сярэднедняпроўскай культуры. Верагодна, да 18 ст. да н. э. па асноўнаму свайму зместу і вартасці скончыўся перыяд суісна вання неалітычных групаў насельніцтва з носьбітамі сярэднедняпроўскай культуры. Ад гэтага часу неалітычны кампанент становіцца заўважнаю адзнакаю сярэднедняп роўскай культуры на яе познім этапе. Як пісалася вышэй, неалітычны кампанент складаўся ў Азярным 1 не толькі з традыцый днепра-данецкай культуры, але і некаторых прыкметаў нёманскай культуры. Магчыма, распад сістэмы неалітычнай культуры, улічваючы факт пранікнення многіх яе элеменгаў у склад сярэднедняпроўскай культуры, у пачатку другой чвэрці II тыс. да н. э. завяршаўся. Але разам з тым, яе пэўныя праявы ў выглядзе трансфармаваных угварэнняў маглі дажываць аж да сярэдзіны II тыс. да н. э.

Дапускаецца, што некаторыя керамічныя вырабы I тыпу Азярнога 1, як і, у пэўным значэнні, комплекс керамікі Старых Юрковіч 1, былі пакінуты носьбітамі сярэднедняпроўскай культуры да пачатку позняга этапу, у дачыненні да Азярнога 2Б, засноўваючыся на даце

«максімальнай сухасці», гэта магло адбыцца ў інтэрвале ад XIX да XVII стст. да н. э. Дарэчы, прапласткі белага пяску з керамікай позняга неаліту—ранняй бронзы, зафіксаваныя ў раскопе Азярнога 1, таксама могуць сведчыць пра паверхневую эрозію ўрочышча Дубнога ў адпаведны час. Не выключана, што найбольш актыўна паверх ня магла раздзімацца ў перыяд максімаль нага паніжэння грунтовых водаў, г. зн. у першыя стагоддзі II тыс. да н. з.

Аднак абсалютная большасць керамікі 1 тыпу з Азярнога 1 адносіцца да позняга этапу існавання сярэднедняпроўскай культу ры, з'яўляючыся ў пэўным сэнсе маналітным комплексам. Пра гэта сведчыць тое, што яна рэпрэзентаваная параўнальна вялікай колькасцю аднароднага посуду. Паводле планіграфіі, кераміка I тыпу «прывязвасцца» да слядоў слупавой пабудовы, рэштак некаторых паглыбленняў і мае адпаведна выражаную канцэнтрацыпо. Што нельга, напрыклад, сказаць, у дачыненні да керамікі И тыпу.

Падсумоўваючы вышэйзгаданае, варта пагадзіцца з тым, што большасць посуду 1 тыпу і звязанага з ёю іншага матэрыяла, ў тым ліку і сляды пабудовы, датуюцца ў межах позняга этапу сярэднедняпроўскай культуры (1700-1400 гады да н. э.). I толькі некаторая частка керамікі магла з'явіцца на месцы Азярнога 1 на сярэднім этапе сярэднедняпроўскай культуры, г. зн. да 1700 гадоў да н. э. Вызначаная храналогія не супярэчыць датам адпаведнага посуду Азярнога 1 па С-14 (1600-1500 гады да н. э.), часткова сінхранізуецца з стжыжоўскай культурай і г. д.

Кераміка II тыпу, а г. зн. тшцінецка сосніцкі перыяд у гісторыі Азярнога 1, можа датавацца, паводле храналогіі ўсходняга «Тшцінца» (С. С. Беразанская, I. I. Арцёмен ка, I. К. Свешнікаў і інш.), часам ад XV да Xl стст. да н. э. Верхняя дата знікнення «Тшцінца» ў Азярным 1, тым не менш, не можа пакуль вызначацца дакладна па той прычыне, што пакуль застаецца амаль невядомым позні перыяд эпохі бронзы ў Беларускім Палессі. На ніжняй Прыпяці, у Верхнім Падняпроўі адзначаецца кераміка і асобныя пахавальныя комплексы лебя доўскага тыпу ці позняй Сосніцы, якія датуюцца ў межах XI-IX (магчыма пачат кам VIII) стст да н. э. (Березанская, 1976, с. 214; 1982, с. 78-79; Артёменко, 1977; 1987, с. 111-112; Крывальцэвіч, Бычкоў, 1996, с. 61-76). Абломкі посуду, які можа атаясам ляцца з лебядоўскім, вядомыя па павярховых зборах на Тураўшчыне (Кривальцевич, 1991). Кераміка, якая адпавядае адзнакам аналагічных вырабаў лебя доўскага тыпу, знойдзена ў Азярным I, што дае некаторыя падставы для папярэдняга вызначэння XI ст. да н. э. у якасці верхняй дагы тшцінецка-сосніцкага гарызонту помніка.

Аднак не выключана, што кераміка лебядоўскага тыпу з'яўляецца познеэтапнай ўсходнетшцінецкай, і усходні «Тшцінец» у Палессі, такім чынам, можа дажываць да пачагку жалезнаг а веку. Так, у прыватнасці, ў дачыненні да позніх сосніцкіх помнікаў ставіўся 1. І. Арцёменка(1977, 1987).

Эпоха бронзы ва Ўсходнім Палессі адыходзіць у нябыт пасля таго, як тут фар муецца мілаградская культура. Знойдзеная ў Азярным 1 кераміка з «жемчужным» арна ментам, адносіцца да ліку найбольш ранніх керамічных вырабаў мілаградскай культуры (Мельниковская, 1967, с. 104; Егорейченко, 1996, с. 29). Такая кераміка можа датавацца ў адпаведнасці з храналогіяй ранняга этапу мілаградскай культуры. Некалі вызначаны В.М. Мельнікоўскай на VI—IV стст. да н. э. ранні этап мілаградскай культуры можа суадносіцца з больш старажытным часам (Свешников, 1971, с. 77; Пободь, 1983, с. 4; Рассадин, 1987, с. 137—138; Крывальцэвіч, Бычкоў, 1996, с. 66-68).

## III. 3. ГІСТАРЫЧНАЯ ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ

### III. 3.1. Этапы і характар засялення

З'яўленне насельніцтва — носьбітаў тых культурных традыцый, якія характэрныя ў большай ступені для сярэднедняпроўскай культуры, на берагах возера Вячэра адбылося, верагодна, прыблізна ў першай чвэрці II тыс. да н. э., што адпавядае па часе сярэдняму этапу развіцця сярэднсдняпроўскай культуры. Такога кшталту паселішчы маглі спачатку ўзнікнуць уздоўж ракі Арэсы (гл., напрыклад, Старыя Юрковічы 1). Адтуль паступова прыхаднямі асвойвалася навакольная прастора, у тым ліку і возера Вячэра.

Сляды прышлага насельніцтва з прыкметамі сярэдняга этапа сярэднедняпроўскай культуры адзначаюцца, як-быццам, не толькі ў Азярным 1, але і на месцы затопленых культурных пластоў Азярнога 2Б. Мяркуецца, што нейкі час прышлае насельніцтва магло суіснаваць з мясцовымі жыхарамі — носьбітамі традыцый неалітычнай днепра-данецкай культуры, кшталту яе ўсходнепалескага варыянту на апошнім чыцвёртым этапе развіцця. Неалітычнае абарыгеннае насельніцтва з берагоў Вячэры, верагодна, знаходзілася ў даволі цесных зносінах з суседзямі — нёманскай культу рай. Адзначаецца таксама, што жыхароў неалітычньгх паселішчаў чацвёртага этапу днепра-данецкай культу ры ўжо закранула ўздзеянне як культуры шарападобных амфар, так і сярэднядняп роўскай культуры.

Характар узаемаадносін прышлага і абарыгеннага насельніцтва пакуль надзвы чай цяжка рэканструяваць. На думку У. Ф. Ісаенкі, як тое так і гэтае насельніцтва, існуючы за кошт розных форм гаспадарання, а значыць эксплуатуючы розныя прыродныя падсістэмы, маглі нейкі час мець найменшыя ўзаемастасункі. У такім выпадку характар рассялення людзкіх калектываў з трады цыямі сярэднедняпроўскай культуры мог нагадваць працэс інфільтрацыі. Падчас пра нікнення прыхадняў, не выключана, назіраўся да пэўнай ступені ўзаемаабмен некаторымі культурнымі дасягненнямі. Аднак, не засяроджваючы пакуль увагу на храналогіі падзей, адзначу, што на нейкім этапе пачына ецца даволі актыўнае культурнае ўзаема дачыненне, ў выніку чаго прышлае насель ніцтва пераймае многія мясцовыя культур ныя адзнакі. Сярэднедняпроўская культура паўсгае на сваім познім этапе ў надзвычай трансфармаваным выглядзе. Абсалютная большасць археалагічных матэрыялаў эпохі бронзы з Азярнога 1 рэпрэзентуецца менавіта познім этапам сярэдне дняпроўскай куль туры, які ў Азярным 1 датуецца ў межах 1700—1400 гадоў да н. э., а магчыма ў вузейшым храналагічным інтэрвале — 1600—1500 гадах да н. э. (conv).

Час існавання насельніцтва, якое пакінула культурныя рэшткі, звязаныя з I тыпам керамікі, відавочна характарызуецца даволі складанай і нестабільнай сітуацыяй: назіраецца суіснаванне і ўзаемадзеянне розных культурных традыцый. Пра гэта сведчыць, "пярэстая" культурная кампа нентнасць, якая адзначаецца для адпаведнага керамічнага і крамянёвага матэрыяла.

У дачыненні да шнуравога культурнага гарызонту паселішча варта адзначыць нас тупнае. Азярное 1 уваходзіла ў кола помнікаў (прыпяцкі варыянт сярэднедняпроў скай культуры), якія развіваліся ў даволі цесных узаемадачыненнях з групай шнуравой керамікі Палесся, і, ў нейкім сэнсе, не выключана, складалі з імі адзіную прастору ўзаемнага пранікнення культурных прыкмет (Археалогія Беларусі, 1997, с. 306). На розных этапах да працэсу фарміравання культурнага комплекса, звязанага з 1 тыпам керамікі, ў той ці іншай форме, мелі дачыненне многія другія культурныя традыцыі. У прыватнасці, акрамя неалітычнага кампанента, заўважаецца пэўны удзел культуры шарападобных амфар і інш.

Магчыма, бліжэй да сярэдзіны II тыс. да н. э. інфільтрацыя шну равых традыцый, якія вызначаюцца прыкметамі сярэднедняпроўскай культуры, і, ў пэўнай ступені, групай помнікаў шнуравой керамікі Палесся, пачынае набываць характар акультурацыі. У дадзеным выпадку гэта працэс істотных змен, якія назіраюцца адначасова як у

субнеалітычным асяроддзі, так і ў культуры прыхадняў. Неалітычная культура "размывалася" і набывала неўласцівыя ёй якасці, аслаблялася іншакультурнымі пранікненнямі, ў тым ліку і шнуравымі.

У сваю чаргу сярэднедняпроўская культура таксама рэструктурызоўвалася, губляла многія свае якасці. Паводле вядомых этнаграфічных мадэляў, працэс мог палягаць па адаптацыі прыхадняў да мясцо вага культурнага асяроддзя, што прыводзіла ў рэшце рэшт да ўзнікнення іншых культурных утварэнняў, аблічча якіх залежала ад таго, рысы якой культу рнай традыцыі дамінавалі (Słownik etnologiczny, 1987,s. 17—18).

У выпадку з Азярным 1 можна дапусціць, uito шнуравая культурная сістэма была дамінуючай і вяла рэй ў культурным працэсе, які 9 канцы канцоў закончыўся з'яўленнем новай традыцыі — усходняга "Тшцінца". Разам з тым, ідзначу, што на поўначы Палесся познія (перажытачныя, суб) неалітычныя традыцыі адыгралі надз вычай важную ролю (ва ўсякім разе, большую, чым на поўдні Палесся) у культурных працэсах другой чвэрці - сярэдзіны II тыс. да н. э.

У ранні перыяд эпохі бронзы Азярное 1 магло засяляцца перыядычна з пэўнымі інтэрваламі. у час пазнейшага этапа (1600-1500 годы да н. э.?) на месцы Азярнога 1, верагодна, узніклі параўнальна доўгатэрміновае паселішча, Апошняя выснова вынікае з адзначанай мною канцэнтрацыі параўнальна вялікай серуј аднароднага посуду, прысутнасці стацыянарнай слупавай пабудовы з слядамі ям.

У тшцінецка-сосніцкі час (15-11 стагоддзі да н. э.) Азярное 1, верагодна, засялялася перыядычна з інтэрваламі. Да такой высновы можна прыйсці, аналізуючы кераміку II тыпу. Назіраецца стылі стычная разнастай насць згаданага посуду, у ім вылучаюцца як ранне так і позне тшцінецкія прыкметы. Адпаведна кераміка рэпрэ зентуецца не серыямі аднароднага посуду, а разваламі ці не шматлікімі абломкамі асобных пасудзін, якія нельга тыпалагічна скампанаваць у нейкія падкомплексы, што дае падставы меркаваць пра перыядычную прысутнасць людзей — носьбітаў тшцінецка-сосніцкіх культурных традыцый — на месцы Азярнога 1. З гэтым часам у Азярным 1 не выпадае звязваць якія-небудзь сляды стацыянарных аб'ектаў. Такі характар культурных адоа данняў назіраецца на многіх іншых вядомых помніках тшцінецка-сосніцкага тыпу на поўначы Палесся (Крывальцэвіч, 1995).

Перыядычную прысутнасць людзей на месцы Азярнога 1 можна адзначыць і для позняга перыяду эпохі бронзы. Верагодна, гэта сведчыць пра наследаванне пасяленскіх традыцый, а значыць і

асноўнага ладу жыцця, ва ўсякім разе ў дадзенай мясцовасці ад сярэдняга да позняга перыядаў эпохі бронзы.

## III. 3.2. Гаспадарка

У якасці асноўных дадзеных для рэканструкцыі некаторых спосабаў гаспадарання таго насельніцтва, якое перыядычна асвойвала ў эпоху бронзы ур. Дубное, выкарыстоўваюцца выніки паліналагічных даследванняў, высновы па характару і этапах засялсння Азярнога I і іншых месцазнаходжанняў мікрарэгіёну, этнаграфічна гістарычныя мадэлі эксплуатацыі адпаведных прыродных падсістэм.

Самыя выніковыя паліналагічныя аналізы былі атрыманы ў паніжэнні рэльефа на месцы азёрнага поплава ў разрэзе плошчаю 1 х 1м, прыблізна за 25 м у паўднёва-усходнім - усходнім накірунку ад ускраіны ўзвышша, на якім размешчаны культурныя пласты Азярнога 1 (Дадатак 3).

У дадзеным мікрарэгіёне ў суббарэальным перыядзе раслі ялова хваевыя лясы з дамешкамі шыpокалісцёвых парод, у падлеску з ляшчынаю, а ў месцах з лішкавым увільгатненнем сяліўся алешнік. У раннім суббарэалі (SB 1 ) (2600 — 2200/2100 гады да н.э.) (храналогія этапаў суббарэала прыведзена паводле Хотинский, 1978; 1977) назіралася пагаршэнне кліматычных умоў у параўнанні з папярэднім атлантычным перы ядам. Адзначаецца дэградацыя шырака лістых лясоў, а пануючае значэнне набылі бярозава-хваёвыя і хваёвыя лясы. Сярэдняя тэмперагура ліпеня была ніжэй сучаснай на велічыню не больш 1°, а студзеня — на 1 — 2°, гадавая — на 0,5—1.5°. Ападкаў выпадала ў цэнгральнай частцы Беларусі каля сучас нага іх значэння (Еловичева, 1993, с. 50—51).

Паводле паліналагічных даследванняў Г. Сімаковай (Дадатак 3) у мікрарэгіёне на ранні суббарэал прыходзіцца ніжні максімум елкі і адначасова нязначная прысутнасць ліпы, вяза, дуба.

Для сярэдняга суббарэаля (SB-2) (2200/2100-1400/1200 гг. да н.э.) адзначаецца, што ў параўнанні з SB-1 клімат становіцца больш цёплым і сухім. Гэта, у сваю чаргу, спрыяе развіццю шыракалістых лясоў. У сувязі з гэтым у разрэзе Азярнога I менавіта для адпаведнага інтэрвалу назіраецца максі мальная колькасць пылку ліпы, дуба, вяза, ляшчыны (Дадатак 3).

У поз и і суббарэальны час (SB-3) (1400/1200-500 гг. да н.э.) у параўнанні з папярэднім этапам кліматычныя ўмовы змяняюцца.

Назіраецца адноснае пахаладанне, павялічвасцца колькасць ападкаў. У сувязі з гэтым у мікрарэгіёне скарачаецца колькасць ліпы, ляшчыны, знікае вяз, граб, хутка распаў сюджваецца елка.

Паліналагічйыя дадзеныя разрэзаў ў Азярным 1 адзначаюць пэўныя моманты ўздзеяння чалавека на расліннасць мікрарэгіёну. У прыватнасці, для SB-1 вылучаецца пылок рудэральнага пустазелля г. зн. той раслінасці, якая з'яўляецца на неапрацаваных месцах, дзе парушаецца глебавае покрыва (побач з жытламі, на сцежках, іншых вытаптаных месцах і г д.) (гл., напрыклад, Левковская, 1987, с. 58).

У SB-2 колькасць пылку руд эральных раслін узрастае, з'яўляецца пылок насквальнага пустазелля (Дадатак 3). Апошняс звязана з месцамі выпасу хатніх жывёл, дзе распаў сюджваецца раслшнасць, якая не з'ядаецца хатнімі жывёламі. расце на вытаптаных ці ўгноеных дзялянках (Левковская, 1987, с. 58) Пылок культурных злакаў і сегетальнае пустазелле — раслін, якія не культывуюцца людзьмі, але растуць разам з культурнымі раслінамі на Глебах амрацаваных ^Левковская, 198/, с. 58). — пачынас з'яўляцца ў спектрах Азярнога 1 на пераходзе ад суббарэальнага да субатлантычнага перыядаў.

Прыток у мікрарэгіён найперш носьбітаў шнуравых культурных традыцый адбываўся на этапе SB-2. Верагодна ўмовы SB-2 спрыялі пранікненню прыхадняў у раён возера Вячэра, што было абумоўлена магчымасцю рэалізаваць і м і сваю скіраванасць на пэўны спосаб вядзення гаспадаркі. Інфільтрацыі іншакультурнага насельніцтва ў згаданы мікрарэгіён, акрамя прыродных абставін, спрыяла схільнасць мігрантаў да адпаведнага ладу жыцця, пэўная этнакультурная ці нават палітычная сітуацыя. Звяртаючы ўвагу на прыродныя ўмовы, адзначу, што на дадзеным этапе суббарэаля (SB-2), як і паўсюль, паніжаецца ўзровень вады, актыўна распаўсюджваюцца шыракалістыя лясы. У выніку гэтага акаляючыя возера паніжаныя ўчасткі рэльефа маглі быць прыдатнымі для развіцця вытворчай гаспадаркі. Паводле паліналагічных дадзеных разрэза, у мікрарэгіёне ўзрастае прысутнасць людзей (павялічаецца колькасць рудэральнага пустазелля). Апошняе можа сведчыць пра больш інтэнсіўнае выкарыстанне людзьмі ўзвышша, што было звязана з частым наведваненнем яго, ці з больш працяглым яго засяленнем (доўгатэрміновае паселішча). Выснова пра стацыянарнае паселішча супадае з тымі, якія абгрунтоўваліся мною на падставе аналіза археалагічнага матэрыялу. У прыватнасці, адзначаецца, што ў адным з інтэрвалаў 1700-1400 гадоў да н.э. у Азярным І магло функцыянаваць доўгатэрміновае паселішча.

Іншыя паліналагічныя дадзеныя па SB-2 дазваляюць канстатаваць, што ў ранні перыяд эпохі бронзы ў мікрарэгіёне пачынае функцыянаваць жывёлагадоўля. Пэўна, з'яўленне статку свойскіх жывёл на берагах Вячэры можна звязваць з пранікненнем сюды прышлага насельніцтва, бо па часе дзве згаданыя падзеі супадаюць (сярэдні і позні этапы сярэднедняпроўскай культуры і SB-2).

Перыядычнае наведванне ўзвышша (Азярное I) носьбітамі сярэднедняпроўскай культуры на сярэднім этапе, у працэсе інфільтрацыі ў іншакультурнае асяроддзе, абумоўлена іх жывёлагадоўчым накірункам гаспадарання. На познім этапе сярэднедняпроўскай культуры ў Азярным I узнікла доўгатэрміновае паселішча. Змены спосабу пасялення на беразе Вячэры можна папярэдне растлумачыць некалькімі абставінамі. Верагодна, з трансфармацыяй культурных традыцый (у працэсе акультурацыі) мог набываць значэнне іншы спосаб існавання, змяняліся акалічнасці і формы гаспадарання. У выніку працяглага культурнага ўзаемадзеяння пранікле насельніцтва, улічваючы працэс акультурацыі, стала замацавалася на "свежай" і к таму часу дастаткова асвоенай імі тэрыторыі.

Такім чынам, у ранні перыяд эпохі бронзы жывёлагадоўчы накірунак гаспадарання мог складаць аснову існавання эпішнуравога насельніцтва ў Азярным I. Мяркуючы па касцё вых рэштках з паселішчаў і могільнікаў сярэдне дняпроўскай культуры, статак хатніх жывёл скла даўся з буйной і дробнай рагатай жывёлы, каня і свінні (Артеменко, 1967, с. 120). Аднак вядомага дагэтуль матэрыялу недастаткова для вызначэння ўдзельнай вагі кожнага віда хатніх жывёл.

Калі ж зноў звярнуцца да паліналагічных дадзеных, улічыць кліматычныя асаблівасці SB 2, то вынікае наступнае. Найбольш прыдатнымі для выпасу статкаў, найперш буйной і дробнай рагатай жывёлы былі больш-менш адкрытыя і малазалесеныя дзялянкі тутэйшых прыазёр ных абшараў. Уздоўж Вячэры для гэтай мэты, у першую чаргу, маглі выкарыстоў вацца азёрныя паплавы, якія зарасталі ў многіх месцах хмызняком, алешнікам і г.д. Статкі таксама маглі пасвіцца па поплаўных узвышшах, зарослых у той час дубам, ляшчынаю і г.д., уздоўж схілаў і паніжэнняў тэрас, якія былі пакрыты пераважна шыракалістымі народамі дрэў. Сярод апошніх часта сустракаліся дуб, ліпа, вяз, граб, ляшчына і г.д. (Дадатак 3). Узвышаныя дзялянкі мясцовага рэльефа былі прыдатнымі для адкорма свіней.

А дна к прастора нізкіх адкрытых участкаў ландшафта, маючы на ўвазе, найперш, тэрыторыю поплава параўнальна невялікага возера, была даволі абмежаванай. У спалу чэнні з доўгатэрміновым паселішчам най больш распаўсюджаным спосабам жывёла гадоўлі мог быць прыдомны выпас буйной і дробнай рагатай жывёлы: статак перыядычна вяртаўся на месца стацыянар нага паселішча (Березанская, 1982, с. 128).

Аднак існаванне доўгатэрміновага паселішча ў Азярным І адзначаецца толькі для пэўнага інтэрвалу ранняга перыяду эпохі бронзы. Найчасцей, як у ранні, так і ў сярэдні, позні перыяды бронзавага веку, пагорак займаўся людзьмі на нядоўгі час. У такім выпадку жывёлагадоўля магла быць адгоннай, а стаянкі станавіліся сезоннымі. Статкі хатніх жывёл адганялі вясною на выпас, дзе яны знаходзіліся да халадоў (Березанская, 1982, с. 128). Але і пры такой форме вядзення жывёлагадоўчай гаспадаркі павінны быць акрамя сезонных (?) стаянак і стацыянарныя паселішчы. Не выключана, што стацыянарныя доўгатэрміновыя паселішчы маглі знаходзіцца ў межах мікрарэгіёну і пакуль застаюцца невядомымі, ці па-за разглядаемым мікрарэгіёнам, а пойма возера ў другім выпадку выкарыстоўвалася для сезоннага выпасу хатніх жывёл.

Апошняя сітуацыя, у прыватнасці, магла складвацца ў працэсе інфільтрацыі ў мікрарэгіён насельніцтва на сярэднім этапе сярэдне дняпроўскай культуры.

Што тычыцца земляробства, то распаў сюджанне яго ў мясцовым мікрарэгіяналь ным асяроддзі ранняга перыяду бронзы аніяк не адзначаецца. Відавочныя адзнакі з'яўлен ня культурных злакаў і сегетальнага пуста зелля фіксуюцца для Азярнога І на пераходны час ад суббарэальнага да субатлантычнага перыядаў.

Мясцовыя глебы (падзолістыя, супясча ныя, пясчаныя, балотныя) не спрыялі земля робству. Разам з тым, этнаграфічныя назіран ні за традыцыйным гаспадарчым побытам паляшукоў, дазволілі Юзафу Абрэмбскаму прыйсці да наступнай высновы: "... Пастухоўства і жывёлагадоўля складаюць аснову палескага побыту, ключавы промысел, на які абапіраецца ўся сістэма традыцыйнай палескай гаспадаркі... Выключна важнае становішча палескага пастухоўства вынікае з таго, што жывёлагадоўля была ў гэтым краі лясоў , балот і пяску адзінай цвёрдай падставай для развіцця земляробства, якая да таго ж забяспечвала трываласць і пастаяннасць ураджаю. У адрозненне ад пастухоўства горцаў, мэтай палескай жывёлагадоўлі было не павялічэнне статку, а колькасць збожжа. Таму жывёлагадоўля ў большай, чым дзе- небудзь ступені, не была ў палескай гаспа дарцы

прывілеяй багатых. А хутчэй была неабходнасцю. Апрацоўка беднай, неўрадлі вай зямлі заключалася, перш за ўсё, у добрай яе падкормцы. У каго не было гною, у таго не было ўраджаю. Галоўнае месца ў гаспа дарцы належала не хлебу, а жывёле, не вор най зямлі, а пашы і сенакосу ці балоту. Паля шук мог мець толькі разам і жывёлу, і хлеб. Калі не было жывёлы — не было хлеба" (цытата з анатацый фота-этнаграфічнай выставы "Палессе, якое не ведаем" паводле рукапісу Юзафа Абрэмбскага "Polesie archai czne. Warszawa, 1943"). Такім чынам, земля робчыя заняткі жыхароў Палесся знаходзі ліся ў залежнасці ад якасці жывёлагадоўлі, а таму развядзенне хатніх жывёл набывала для мясцовага насельніцтва пэўны прыярытэт.

Аднак, вяртаючыся да Азярнага І, адзначу, што земляробства магло мець (хоць і не ў такой ступені як жывёлагадоўля) месца па-за дадзеным мікрарэгіёнам, а менавіта там, дзе кампактна лакалізаваліся сталыя паселішчы і дзе для гэтага занятку былі больш прыдатныя ўмовы (прыродныя, культурныя і інш.). У такім выпадку апрацоўваліся, найперш, тыя вольныя дзялянкі ўзвышша, якія размяшчаліся па-за паселішчам. Аснова ж ідэальна збалансаванай эканомікі калі "паляшук мог мець разам і жывёлу і хлеб", улічваючы адхіленні ў залежнасці ад культурных традыцый, склалася, верагодна, у разгледжаным мікрарэгіянальным асяроддзі к пачатку жалезнага веку (мілаградская культура? — гл., напрыклад, Егорейченко, 1996, с. 30-55).

Падобную сітуацыю апісваў А.М. Мікляеў, разглядаючы адпаведны перыяд у гісторыі азёрных паселішчаў Дзвінска- Ловацкага міжрэчча. Для ўсяго суббарэальнага перыяду ў згаданым мікра рэгіёне не выяўляецца слядоў земляробства. Адзначаюцца, між тым, адзнакі жывёла гадоўлі. А.М. Мікляеў меркаваў, што паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва заставаліся для мясцовага насельніцтва, нягледзячы на відавочна актыўныя сувязі з цэнтральна-еўрапейскімі культурамі, асноўнымі крыніцамі забеспячэння жыцця дзейнасці. «Такія віды, як ляшчына, дуб, вадзяны арэх забяспечвалі людзей вугляво дамі і расліннымі тлушчамі» — падсумоўвае даследчык (Микляев, 1995, с. 26).

У тшцінецка-сосніцкі час, як і ў позні перыяд эпохі бронзы, Азярное І засялялася перыядычна з інтэрваламі. Ва ўрочышчы ўзнікалі часовыя стаянкі.

У адносінах да паўночных ("нізовых") раёнаў заходняга "Тшцінца" існуе думка, паводле якой на «нізе» дамінавалі малыя групы людзей. Яны жылі невялікімі і кароткачасовымі паселішчамі, выкарыс тоўваючы для сваіх гаспадарчых мэт параўнальна разлеглыя

тутэйшыя прасторы (Czebreszuk, 1996, s. 157). "Тшцінец на Нізе, — гтіша Я. Чэбрэшук, — гэта найчасцей сляды невялікіх дзюнных паселішчаў, звычайна дрэнна захаваных і з невялікай колькасцю знаходак. Заўважу, што такая пасяленцкая мадэль мае на Нізе даўнюю традыцыю, сягаючы часоў мезалітычных, і ўдасканаленая культурай лейкападобных кубкаў і культурай шнуравой керамікі" (Czebreszuk, 1997, s. 13).

Апісаная пасяленцкая стратэгія абумоўлівалася перавагаю жавёлагадоўлі (у форме сезоннай адгоннай?) над іншымі спосабамі забяспячэння жыццядзейнасці. Роля апрацоўкі зямлі была, мусіць, нязначнай. Але, пры гэтым, адначасова павінна было надавацца важнае значэнне ў структуры гаспадарчых заняткаў паляванню, рыбалоўству і збіральніцтву.

Такая мадэль гаспадарчых заняткаў можа быць прынята і для той групы тшцінецка -сосніцкага насельніцтва, якое пакінула свае сляды на месцы Азярнога I і ў мікрарэгіёне. Увогуле, згаданы спосаб гаспадарання быу, не выключана, характэрны для ўсёй паўночна-палескай групы ўсходняга "Тшцінца", улічваючы асаблівасці мясцовых ландшафтаў і ролю неалітычных традыцый ў тутэйшым культурным працэссе (Крывальцэвіч, 1995).

### III 3.3. Да проблемы сацыяльнай структуры

У развітых пастаральных грамадствах вытворчасць, уласнасць і ўлада знаходзяцца ў руках мужчыны. Мужчына таксама кіруе хатняй гаспадаркай. Жанчына ў такім выпадку цалкам яму падначаленая (Говард, 1995, с. 118—119). У адпаведнасці з этнаграфічнымі мадэлямі можна дапусціць, што сацыяльная арганізацыя пастухоўскіх супольнасцяў эпохі бронзы была заснаваная на патрыярхаце. Грамадства набывала адпаведную іерархічнасць: калектывы ў форме патрыярхальных родаў кіруюцца групамі мужчын. Менавіта так уяўляюцца для многіх даследчыкам некаторыя структурныя асновы сацыяльнай арганізацыі насельніцт ва культур шнуравой керамікі, улічваючы пастухоўскі характар эканомікі апошніх (гл., напрыклад, Buchwaldek, 1986; Merpert, 1976 і г.д.). Але адначасова іерархічнасць у «шнуравым» асяроддзі знаходзілася, відаць, на пачатковым этапе. Стан некаторых "шнуравых" грамадстваў характарызу ецца эгалітар насцю, з паступовым паглыб леннем іерархіі і больш-мснш выразным выяўленнем правадырскіх функцый (Kadrów, 1995, s. 98-104).

Паказнікам патрыярхальнай стратыфі кацыі грамадства сярэдне

дняпроўскай культуры могуць служыць яе пахавальныя звычаі, адзначаныя паводле матэрыялаў могільнікаў Верхняга Падняпроўя. Маюцца на ўвазе мужчынскія пахаванні, якія вылуча юцца як спосабам арганізацыі месца паха вання, адзначэннем яго сярод іншых магіл, так і наборам прэстыжных рэчаў, у тым ліку і зброі. Не выключана, што некаторыя дзіця чыя пахаванні, якія вылучаюцца наборам пахавальнага інвентару, маглі наследаваць адпаведны статус сваіх бацькоў і родных.

Адначасова суседняе грамадства катакомбных культур, паводле С. Пуставалава, знаходзілася на тым узроўні сацыяльнай арганізацыі, калі пачалі фармавацца палітычныя цэнтры, вылучыўся ўладны набілітэт, функцыі якога маглі нават перадавацца ў спадчыну (Pystovalov, 1994, p. 86-134).

Такім чынам, з пранікненнем на берагі возера Вячэра ў ранні перыяд бронзавага веку носьбітаў сярэднедняпроўскай культу ры, у Азярным I магло атабарвацца насель ніцтва, якое жыло патрыярхальнымі родавымі калектывамі. Засноўваючы сваю эканоміку на жывёлагадоўлі і існуючы патрыярхальнымі родамі, прыхадні, відаць, адчувалі сябе не зусім камфортна ў мясцо вым неалітычным асяроддзі.

Сацыяльную аснову неалітычнага насельніцтва, паводле У.Ф. Ісаенкі, складалі мацярынска-родавыя абшчыны, у складзе якіх к канцу неаліту пачынае выразна праглядацца дзейнасць асобных мацярынскіх сем'яў. Мацярынская сямейная абшчына звычайна займала адно паселішча, дэманструючы пэўную абасобленнасць асобных сем'яў (Исаенко, 19766, с. 125).

У неалітычнае культурнае асяроддзе, асабліва ў канцы III — пачатку II тыс. да н.э., актыўна пранікаюць іншыя культурныя традыцыі. Не выключана, што ў гэты час, які прыпадае на ранні перыяд бронзавага веку, назіраецца працэс распаду архаічнай сацыяльнай сістэмы носьбітаў неалітычнай культуры. Выключна моцнае ўздзеянне на яе аказала сярэднедняпроўская культура. Адзначанае вышэй у працэсе акультурацыі ўзаемадзеянне прышлай і мясцовай культурных сістэм, дазваляе аднак устрымлівацца ад меркавання пра канчатковае знікненне сацыяльных адносін, характэрных для неалітычнага насельніцтва. Верагодна, многія яе элементы маглі стаць набыткам тых носьбітаў сярэднедняпроўскай культуры, якія адзначаюцца ў Азярным 1 на познім яе этапе, а таксама, нейкім чынам трансфармаваўшыся, вызначыць сутнасць сацыяльнай арганізацыі адпаведных тшцінецка-сосніцкіх груп.

